● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

27 красавіка 1996 г. субота, № 108 (22911)



# ЗВЯЗДА

## РОЗГАЛАС

### ВЫСОКАШАНОЎНАМУ АЛЯКСАНДРУ ЛУКАШЭНКУ ПРЭЗІДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Паважаны пан Прэзідэнт!

Цяпер, калі мы адзначаем 10-ю гадавіну згубных падзей на Чарнобыльскай АЭС, найбольш зручны момант для таго, каб задумацца аб маштабе гэтага бедства і падвоіць нашы намаганні з тым, каб прадухіліць паўтарэнне такой аварыі.

Я цаню намаганні беларускага народа, якія ён робіць для таго, каб справіцца з гэтай беспрэцэдэнтнай праблемай, што аказала сваё ўздзеянне на многія мільёны людзей усіх узростаў. Рэспубліка Беларусь моцна пацярпела ад аварыі, і нас радуюць добрая воля і падтрымка, якія былі праяўлены ў адносінах да ахвяр Чарнобыля міжнародным супольніцтвам донараў.

Урад ЗША таксама зрабіў свой уклад у аднаўленчыя намаганні, прадастаўляючы лекі і медыцынскія сродкі для ахвяр чарнобыльскай аварыі. ЗША застаюцца прыхільнымі да нашых сумесных з беларускімі ўрачамі намаганняў па дасягненню лепшага разумення праблемы росту колькасці захворванняў на рак шчытападобнай залозы ў дзяцей, якая сапраўды з'яўляецца адным з найбольш трагічных вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

У той час як мы смуткуем аб тых, хто аддаў сваё жыццё, і выказваем сваё спачуванне тым, хто і цяпер адчувае на сабе ўздзеянне чарнобыльскай аварыі, ад імя народа Злучаных Штатаў дазвольце таксама заявіць аб нашай прыхільнасці садзейнічаць вылячэнню, забяспечваць прафілактыку і даваць надзею.

**Шчыра,**

**Вільям Дж. КЛІНТАН**

*БЕЛЫ ДОМ*
*ОФІС ПРЭЗІДЭНТА*
*ВАШЫНГТОН, АКРУГА КАЛУМБІЯ*
*18 красавіка 1996 года*

### ПАМІЖ БЕЛАРУССЮ І ЛІТВОЙ НЯМА ПРАБЛЕМ, ЯКІЯ Б ІХ РАЗДЗЯЛЯЛІ

**Вялікае задавальненне тым, што парламент Літвы ратыфікаваў блок пагадненняў паміж нашымі краінамі, выказаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы са Старшынёй сейма Літвы Чэславасам Юршэнасам. Яна адбылася раніцай 26 красавіка ў рэзідэнцыі кіраўніка беларускай дзяржавы.**

— Нашы народы заўсёды былі дружалюбна настроены ў адносінах адзін да аднаго. І сёння няма такіх праблем, якія б нас раздзялялі, — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Прэзідэнт таксама высока ацаніў дынаміку гандлёва-эканамічных адносінаў паміж дзвюма дзяржавамі за апошні час.

— У мінулым годзе быў ажыццёўлены рэальны прарыў у галіне гандлю, — заявіў ён. — Тавараабарот паміж рэспублікамі склаў 237 мільёнаў долараў ЗША, што ў 4,7 раза вышэй, чым у 1994 годзе. Сальда гандлёвага балансу было дадатным для Беларусі і склала звыш 55 мільёнаў долараў. Літва сярод нашых гандлёвых партнёраў выйшла на пятае месца ўслед за Расіяй, Германіяй, Украінай і Польшчай. І паводле даных за першы квартал бягучага года, тавараабарот з Літвой застаецца на стабільным узроўні. Гэта радуе і ўсяляе аптымізм.

Аляксандр Лукашэнка пацвердзіў, што ў знешняй палітыцы адносіны з суседзямі для Беларусі заўсёды былі і застануцца прыярытэтнымі. Бакі выказалі ўзаемную зацікаўленасць у больш цесным супрацоўніцтве.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

### ПРЭЗІДЭНТ ПРЫНЯЎ АЎТАМАБІЛЕБУДАЎНІКОЎ З ЗША

**У пасёлку Апчак пад Мінскам, плануецца будаўніцтва беларуска-амерыканскага прадпрыемства па зборцы легкавых аўтамабіляў маркі «Форд».**

З мэтай удакладнення дэталяў стварэння будучай вытворчасці ў нашай рэспубліцы знаходзіцца група спецыялістаў-кіраўнікоў з ЗША на чале з выканаўчым дырэктарам па развіццю новых рынкаў вядомай у свеце кампаніі «Форд Мотарс» Майклам Меснерам. 26 красавіка ў прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра адбылася пратакольная сустрэча з гасцямі.

У гэты ж дзень амерыканцаў прыняў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка.

Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, кампанія «Форд Мотарс» поўная рашучасці ажыццявіць у Беларусі сумесны праект. Аб гэтым сведчыць і гадавая справаздача кампаніі, дзе яму ўдзяляецца дастойнае месца. Рэалізацыя праекта выгадная абодвум бакам.

**Віктар САХАНКОЎ, БЕЛТА.**

## У БЕЛАРУСІ І ГЕРМАНІІ СУМЕСНЫЯ ІНТАРЭСЫ ПА БУДАЎНІЦТВУ НОВАЙ ЕЎРОПЫ

«Гэтак жа, як расцвітаюць сёння на нямецкай зямлі сады і кветкі, няхай расцвітаюць адносіны паміж Германіяй і Беларуссю», — такі спіч сказаў на прыёме ў гонар беларускага Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў палацы Шарлатэнбург кіруючы бургамістр Берліна Эбегхард Дыпген. Сустрэча і гутарка з ім адбыліся ў апошні дзень знаходжання кіраўніка беларускай дзяржавы ў ФРГ, 25 красавіка.

А пачалася берлінская праграма Аляксандра Лукашэнкі і міністраў, банкіраў, прамыслоўцаў, якія суправаджалі яго ў рабочай паездцы па Германіі, з наведвання замка «Бельвю» — афіцыйнай рэзідэнцыі прэзідэнта ФРГ Рамана Херцага. Адбыліся перагаворы двух прэзідэнтаў. У гэты ж дзень паўнамоцныя прадстаўнікі абедзвюх дзяржаў падпісалі пагадненні аб доглядзе ваенных магіл і аб супрацоўніцтве ў ліквідацыі ядзернай зброі.

Разам з кіруючым бургамістрам Э. Дыпгенам Аляксандр Лукашэнка прайшоў пад Брандэнбургскімі варотамі — сімвалам Берліна, які стаў новай федэральнай сталіцай Германіі. Беларускага Прэзідэнта цёпла віталі берлінцы: дарылі кветкі, бралі аўтографы.

Цікавасці да асобы беларускага Прэзідэнта і да таго, што адбываецца ў Беларусі сёння, не ўтойвалі ўсе немцы, якія мелі сустрэчы і гутаркі з Аляксандрам Лукашэнкам у Дзюсельдорфе, Кёльне, Гановеры і Берліне. Ці то гэта былі палітычныя і дзяржаўныя дзеячы, ці прадстаўнікі буйных канцэрнаў і сярэдняга бізнесу. Прычыну такой цікавасці добра сфармуляваў кіруючы бургамістр Берліна Эбегхард Дыпген: у Беларусі і Германіі сумесныя інтарэсы па будаўніцтву новай Еўропы. І будаўніцтва гэта Дыпген і Лукашэнка вырашылі пачаць з дарогі, якая аб'яднае Парыж, Берлін, Варшаву, Мінск і Маскву. Транскантынентальная траса, па задуме Прэзідэнта і бургамістра, зробіць больш блізкай і эканоміку дзяржаў, і іх людзей. Падрабязнасці праекта будуць абмеркаваны на канферэнцыі прадстаўнікоў пяці краін, якую Аляксандр Лукашэнка прапанаваў правесці ў Мінску.

Выклікаўшы ў немцаў цікавасць як палітык новага пакалення, сам Аляксандр Лукашэнка так сфармуляваў мэту свайго рабочага візіту ў Германію: узняцце на новы ўзровень эканамічнага супрацоўніцтва з вялікай краінай высокіх тэхналогій, жаданне прыцягнуць нямецкіх інвестараў у беларускую эканоміку. Канкрэтную прапанову па інвесціраванню свабоднай эканамічнай зоны «Брэст» Прэзідэнт зрабіў кіраўніцтву зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Ён не толькі паабяцаў стварыць у гэтай зоне рэжым найбольшага спрыяння для нямецкіх інвестараў, але і прапанаваў германскаму боку распрацаваць свой пакет нарматыўна-прававых актаў па дзейнасці гэтай зоны. Гэты праект можа стаць прадметам канкрэтных перагавораў бакоў ужо праз месяц-другі.

Аб сваіх асабістых гарантыях замежным інвестарам Аляксандр Лукашэнка заяўляў неаднаразова ў час паездкі па Германіі. Гэтыя гарантыі, паводле яго слоў, грунтуюцца на стабільным палітычным курсе беларускай дзяржавы, на імкненні яе кіраўніцтва будаваць сацыяльна накіраваную рыначную эканоміку і дастойна ўвайсці ў еўрапейскае супольніцтва.

Выгады ж для тых, хто захоча ўкласці свае капіталы ў беларускую эканоміку, відавочныя, лічыць Прэзідэнт, і ў гэтым яго падтрымалі многія прадстаўнікі нямецкіх дзяржаўных і дзелавых колаў. Беларусь з'яўляецца сувязным звяном паміж Усходам і Захадам, яна мае вялікі навуковы і кадравы патэнцыял, а апошнія дагаворы чатырох дзяржаў СНД і расійска-беларускі адкрываюць нямецкаму бізнесу дарогу ў эканамічную прастору амаль усяго былога Саюза.

У час рабочага візіту ў Германію Аляксандр Лукашэнка шмат і падрабязна расказваў пра палітыку, эканоміку і сацыяльную сферу Беларусі, аб тых цяжкасцях, якія перажывае рэспубліка ў сувязі з чарнобыльскай аварыяй. Яго прамову на адкрыцці Дня беларускай эканомікі на веснавым Гановерскім міжнародным кірмашы слухалі не толькі прадстаўнікі фірмаў-удзельніц, але і цэлы атрад журналістаў з усіх краін свету: іх, дарэчы, акрэдытавана на кірмашы 6 тысяч чалавек. Што ж датычыць беларуска-расійскіх адносінаў, цікавасць да якіх на Захадзе не слабее, то Прэзідэнт падкрэсліваў сваю прыхільнасць да формулы: Беларусь павінна быць разам з Расіяй і Еўропай.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛТА.**

## ЗАЯВА

**урадаў Азербайджанскай Рэспублікі, Рэспублікі Арменія, Рэспублікі Беларусь, Грузіі, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Рэспублікі Малдова, Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Таджыкістан і Украіны ў сувязі з 10-годдзем аварыі на Чарнобыльскай АЭС**

Урады дзяржаў—удзельніц Пагаднення аб сацыяльнай абароне і ахове здароўя грамадзян, якія падвергліся ўздзеянню радыяцыі ў выніку чарнобыльскай і іншых радыяцыйных катастроф і аварый, а таксама ядзерных выпрабаванняў, ад 9 верасня 1994 года,

прызнаючы, што аварыя на Чарнобыльскай атамнай станцыі па сваіх выніках з'яўляецца глабальнай радыяцыйнай катастрофай,

усведамляючы адказнасць перад насельніцтвам, якое пацярпела ў выніку аварыі, і ўдзельнікамі ліквідацыі яе вынікаў,

улічваючы нявырашанасць шэрага праблем, звязаных з катастрофай на Чарнобыльскай атамнай станцыі, і сваё жаданне прыкласці максімум намаганняў для іх вырашэння,

заяўляюць аб тым, што будуць прыняты ўсе меры, што залежаць ад урадаў, па перасяленню жыхароў з зон абавязковага адсялення, уладкаванню пераехаўшых на новае месца жыхарства, забеспячэнню ўводу ў дзеянне лячэбна-прафілактычных устаноў і жылля для пацярпеўшых у выніку чарнобыльскай катастрофы, іншых радыяцыйных аварый і катастроф, прадаўжэнню аказання тэхнічнай і фінансавай падтрымкі скаардынаваным навуковым даследаванням па праблемах радыяцыйнай медыцыны, сельскагаспадарчай радыялогіі, рэабілітацыі забруджаных тэрыторый, узмацненню ўзаемадзеяння з міжнароднымі, дзяржаўнымі, грамадскімі і прыватнымі арганізацыямі і фондамі па пытаннях ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай аварыі і іншых радыяцыйных катастроф.

Урады дзяржаў—удзельніц Пагаднення разгледзяць магчымасць выдзялення ў бюджэтах сваіх дзяржаў сродкаў, неабходных для прадастаўлення ўказаным катэгорыям грамадзян прадугледжаных ільгот і кампенсацый, а таксама заклікаюць кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый усіх формаў уласнасці адшукаць магчымасць для аказання дадатковай матэрыяльнай дапамогі пацярпеўшым грамадзянам, у тым ліку ў аплаце пуцёвак на санаторна-курортнае лячэнне, медыцынскіх паслуг, лекавых сродкаў і экалагічна чыстых прадуктаў харчавання.

Урады дзяржаў—удзельніц Пагаднення лічаць мэтазгодным, каб Міждзяржаўная тэлерадыёкампанія «Мір» і іншыя сродкі масавай інфармацыі дзяржаў Садружнасці больш актыўна асвятлялі ход рэалізацыі дзяржаўных і міждзяржаўных праграм па ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай катастрофы, практыкі арганізацыі аздараўлення пацярпеўшых і членаў іх сем'яў, дзейнасці кіраўніцкіх, гаспадарчых, прадпрымальніцкіх структур і грамадскіх арганізацый, накіраванай на забеспячэнне сацыяльнай абароны ўказанай катэгорыі грамадзян.

Урады дзяржаў—удзельніц Пагаднення будуць імкнуцца да ўзгодненых дзеянняў па ахове здароўя і сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ў выніку чарнобыльскай аварыі, іншых радыяцыйных катастроф, у тым ліку ўдзельнікаў ліквідацыі іх вынікаў.

*СКАНДАЛ*

## ЗНАЙШЛІ І Ў ЦЮМЕНІ

**Яшчэ ў снежні 1993 года ў дакладзе А. Р. Лукашэнкі, які ўзначальваў у той час Часовую камісію Вярхоўнага Савета па вывучэнню дзейнасці камерцыйных структур, што дзейнічалі пры рэспубліканскіх і мясцовых органах улады і кіравання, былі абнародаваны звесткі аб неабгрунтаваным атрыманні кіраўніком канцэрна «Лесхімпром» А. Вабішчэвічам у шэрагу банкаў крэдытаў больш чым на мільярд рублёў і дзесяткі тысяч долараў ЗША.**

У ходзе расследавання па справе, узбуджанай Пракуратурай рэспублікі, поўнасцю пацвердзіліся выкладзеныя ў дакладзе факты незаконнага выманьвання крэдытаў і злоўжывання службовым становішчам з боку А. Вабішчэвіча і яго саўдзельнікаў.

А рабілася ўсё па даволі простай схеме. Пасля рэгістрацыі ў студзені 1993 года Мінскім гарвыканкомам канцэрна «Лесхімпром» А. Вабішчэвіч стварае яшчэ адну фірму — «Міраслаў» і становіцца яе дырэктарам. Затым складае кантракт быццам бы на закупку розных тавараў у гэтай фірме і іншых, якіх няма і фактычна не было, і звяртаецца ў розныя банкі па крэдыты пад гэтыя закупкі. А. Вабішчэвіч падключыў да гэтай справы і дырэктара фірмы «Аўтатэхнікс» П. Цішчанку і яго «памочніка» А. Чапурко, які разам з П. Цішчанкам стварыў яшчэ некалькі падобных фірмаў.

Падаючы фіктыўныя дакументы, у прыватнасці ў Ашчабанк, А. Вабішчэвіч атрымлівае крэдыт у 500 мільёнаў рублёў. Затым такім жа шляхам у АКБ «Комінкс» — 50 тысяч долараў ЗША, у Белпрамбудбанку г. Мінска — 200 тысяч долараў ЗША. І гэтак далей. Вядома, грошы затым былі абнаяўлены і вывезены далёка за межы рэспублікі і да гэтага часу іх ніхто не вярнуў і наўрад ці верне.

Дзякуючы высокаму прафесіяналізму старшага следчага пры Генеральным пракуроры Міхаіла Гардыкі паспяхова было праведзена следства ў адносінах да П. Цішчанкі, які быў асуджаны ў 1995 годзе да 5 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Накіравалі ў суд і крымінальную справу ў адносінах да А. Чапурко. Што датычыцца А. Вабішчэвіча, то ён яшчэ раней зразумеў, што парушыў закон, а таму апынуўся аж у Цюменскай вобласці. У Цюмені набыў сабе новы пашпарт і стаў Еўдакімавым. Але дзякуючы дзелавым сувязям супрацоўнікаў міліцыі Рэспублікі Беларусь і Расіі праз два гады А. Вабішчэвіч быў затрыманы. М. Гардыка прад'явіў яму абвінавачванне ў крадзяжы ў асабліва буйных памерах, выманьванні крэдытаў і службовым падлогу. Хутка ён, відаць, сустрэне ў месцах не вельмі аддаленых і сваіх сяброў па «сумеснаму бізнесу».

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ПЕРШЫЯ ПАРЛАМЕНЦКІЯ СЛУХАННІ — З НАГОДЫ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЕДЫІ

**З хвіліны маўчання ў памяць ахвяр аварыі на Чарнобыльскай АЭС пачалося ўчора пленарнае пасяджэнне Вярхоўнага Савета Беларусі. У гэты жалобны дзень дэпутаты цалкам прысвяцілі сваю работу абмеркаванню чарнобыльскіх праблем: былі аб'яўлены парламенцкія слуханні (у практыцы дзейнасці Вярхоўнага Савета XIII склікання такі метад работы выкарыстоўваецца ўпершыню).**

Такім чынам, 26 красавіка ў зале пасяджэнняў сесіі з дакладамі выступілі міністры Іван Кенік і Інеса Драбышэўская, а таксама старшыня Камісіі па праблемах чарнобыльскай катастрофы Віктар Хоміч. Слова папрасілі некаторыя іншыя дэпутаты, у прыватнасці Сяргей Прохарчык, Станіслаў Шушкевіч, Андрэй Клімаў, Аляксей Камай, Анатоль Волкаў, Уладзімір Канаплёў. Іх выступленні адрозніваліся як па маштабнасці ахопленых праблем, так і па эмацыянальнай афарбоўцы, але ў словах кожнага чуўся боль за сённяшняе і будучае Беларусі. У парламенцкіх слуханнях прынялі ўдзел таксама навукоўцы з Акадэміі навук Беларусі і навукова-даследчых інстытутаў, якія займаюцца чарнобыльскай тэматыкай.

Аднак нельга не адзначыць і таго прыкрага моманту, што сярод дэпутатаў знайшлося нямала тых, хто прысвяціў учарашні дзень вырашэнню асабістых праблем. Нягледзячы на тое, што раніцай вынікі рэгістрацыі засведчылі прысутнасць на сесіі 136 дэпутатаў, у сярэдзіне дня іх колькасць заўважна зменшылася: у зале налічвалася не больш як 75 чалавек. Гэтая акалічнасць нават паслужыла падставай для апраўдання старшынствуючага Васіля Новікава перад запрошанымі ды гасцямі. Ён паведаміў аб тым, што дэлегацыя аграрыяў знаходзіцца за мяжой, а некалькі дэпутатаў выехалі ў забруджаныя раёны. Тым не менш, гэта не апраўдвае адсутнасці на сесіі 120 народных выбраннікаў.

Учора быў зменены графік далейшай работы парламента. Наступнае пасяджэнне, якое планавалася на 2 мая, з-за святаў дэпутаты палічылі немэтазгодным і вырашылі сабрацца крыху пазней. Мяркуецца, што дакладная дата будзе вызначана на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## СЯМЁН ШАРЭЦКІ: «ПРАМАЯ ЛІНІЯ» «ЗВЯЗДЫ»

***Паважаны Сямён Георгіевіч!***

***Вельмі прыемна, што вы зноў праз газету «Звязда» шчыра, адкрыта і сумленна будзеце адказваць на пытанні чытачоў. На жаль, з папярэдніх адказаў шмат чаго засталося нявысветленым. Напрыклад:***

***Чаму вы як Старшыня Вярхоўнага Савета ўзялі на сябе такую непрывабную ролю (а дакладней, грэх) і парушылі добрую традыцыю, якую стварылі да вас былыя старшыні парламента, вывеўшы з ужытку ў Вярхоўным Савеце беларускую мову? Вашы тлумачэнні, нібыта беларускай мовы не зразумеюць дэпутаты, прабачце мне, несур'ёзныя... Адкажыце шчыра, сумленна і канкрэтна: ці карыстаецеся вы на службе беларускай мовай? Няўжо гэта так цяжка?! А можа, вы яе не паважаеце: на жаль, ёсць у нас такія «беларусы»...***

***Вы сказалі аб тым, што літаральна ў бліжэйшы час у Вярхоўным Савеце пачнуць працаваць курсы беларускай мовы... Адкажыце, калі ласка, ці наступіў гэты «бліжэйшы час»?***

***В. САВЕЛІЧ, пенсіянер. г. Мінск.***

***Не зусім зразумела ваша пазіцыя адносна таго, што пасяджэнні парламента па-беларуску вы будзеце весці толькі пасля заканчэння дэпутатамі курсаў беларускай мовы... Але ж лідэр-патрыёт нават у самай складанай сітуацыі павінен паказваць прыклад абароны гонару нацыі, важнейшым атрыбутам чаго з'яўляецца мова народа. А што перашкаджае вам даваць інтэрв'ю, праводзіць прэс-канферэнцыі на роднай мове?***

***Антон БУЙЧЫК, г. Віцебск.***

**Гэтыя ж пытанні ўтрымліваюцца ў лістах і тэлефонных званках, адрасаваных рэдакцыі нашай газеты на імя Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёна Шарэцкага, якія мы атрымалі ад Б. МУЛЯРЧЫКА з Брэста, Міколы ЗАСІНЦА з Мазыра, мінчаніна В. СКАРАХОДА, Я. БУКШТЫНА з Віцебска, Анатоля БЕЛАНОВІЧА з Віцебшчыны, Мікалая Варановіча з Мядзельскага, Аляксандра БАЎТУТЫ з Гродзенскага, Уладзіміра ВАСІЛЁНКА з Баранавіцкага раёнаў, Андрэя і Вольгі ШАМУРОНКАЎ з Гомельшчыны і многіх іншых чытачоў «Звязды».**

— Што ж, зрухі ёсць: у час правядзення папярэдняй «прамой лініі» ў лютым пытанняў адносна стану нашай роднай мовы было куды больш. Хаця сама па сабе гэта акалічнасць мяне не заспакойвае ніколькі: я добра разумею, што праблем з гэтым у нас пакуль менш не стала. Не пабольшала людзей, якія размаўляюць на беларускай мове, на жаль, і да адрэгулявання заканадаўства наш Вярхоўны Савет пакуль што не меў магчымасці прыступіць. На тое ёсць аб'ектыўныя прычыны: нам трэба было разглядаць надзвычай важныя пытанні штодзённай дзейнасці грамадства, аб чым чытачы, думаю, добра ведаюць...

Аднак хачу яшчэ раз паўтарыць: як Старшыня Вярхоўнага Савета і як грамадзянін Рэспублікі Беларусь я буду рабіць усё, каб беларуская мова на справе стала мовай нашай дзяржавы.

У штодзённым жыцці роднай мовай я карыстаюся вельмі часта. Калі наведвальнікі, журналісты, іншыя мае субяседнікі выказваюць жаданне размаўляць па-беларуску, я з ахвотай падтрымліваю іх. І, паверце, выглядаю даволі дастойна...

Адносна «бліжэйшага часу», пра які нагадвае мне В. Савеліч, скажу: ён ужо наступіў. Сакратарыят Вярхоўнага Савета наладзіў ужо курсы па вывучэнню моў: беларускай, англійскай і нямецкай. Так што змены ёсць, і канкрэтныя вынікі абавязкова будуць. І ўжо праз месяц-другі парламент загаворыць на роднай мове.

***Дазвольце запытаць у вас: ці мяркуецца ў бліжэйшы час вырашыць пытанне адносна справядлівага пенсіённага забеспячэння? На сённяшні дзень у налічэнні пенсій дзейнічае ўраўнілаўка, не ўлічваецца індывідуальны каэфіцыент. А яшчэ пенсіянеры знаходзяцца не ў аднолькавых умовах. Некаторыя з іх атрымліваюць значную дапамогу ад вытворчых калектываў, арганізацый чыгуначнага транспарту, нават некаторых калгасаў і саўгасаў, якія маюць магчымасць падтрымаць сваіх былых працаўнікоў. Пенсіянеры ж бюджэтнікі такіх прывілей не маюць... Просім вас зрабіць усё магчымае для ўстанаўлення справядлівасці, законнасці.***

***З павагай Я. ГІДЛЕЎСКАЯ, Г. ЛАПІЦКІ,***

(Заканчэнне. Пачатак у № за 13 красавіка г. г.)



***З. СПЕЦЫЯН, М. ЛАПІЦКАЯ, Т. МАЦКЕВІЧ, В. СЕМАШКЕВІЧ — настаўнікі-пенсіянеры Раёўскай СШ Маладзечанскага раёна.***

***Дык ці будуць усё ж унесены змены і дапаўненні ў Закон аб пенсіях з тым разлікам, каб улічваўся канкрэтны стаж кожнага пенсіянера?***

***Валерый СУДАКОЎ, г. Калінкавічы.***

***Чаму пры вылічэнні пенсіі пры каэфіцыентах 0,8 і 2,7 розніца ў грашах складае ўсяго 10 тысяч рублёў? Чаму пры стажы 20 і 40 гадоў розніца ў памерах пенсій такая малая?***

***Зінаіда ЛУК'ЯНАВА, г. Мінск.***

**Гэта ж праблема закранаецца ў зваротах Казіміра ІЗМАЙЛАВА з Глыбокага, Васіля КІПРЫЯНОВІЧА з Мінска, Зоі МАЛЬКО з Мядзеля, Анатоля АБРАМЕНКІ з Віцебска, Аляксандра СУПРУНА з Мінска і іншых.**

— Я добра разумею: гэта пытанне вельмі і вельмі балючае. Крыўдна чалавеку, калі ён, адпрацаваўшы 35—40 гадоў, атрымлівае амаль аднолькавую пенсію з тым, у каго стаж у два разы меншы. Так што пенсіённае заканадаўства безумоўна трэба пераглядаць.

Адпаведныя камісіі Вярхоўнага Савета цяпер працуюць над удасканаленнем Закона аб пенсіях. Папраўкі ў яго будуць унесены ў самы бліжэйшы час.

***Вам, Сямён Георгіевіч, як навукоўцу, несумненна, вядомы гаротны стан людзей навукі, асабліва ветэранаў. Былы прарэктар, напрыклад, мае сёння менш за 550 тысяч рублёў. Як вы лічыце: калі будзе рэальная магчымасць палёшыць іх становішча?***

***Міхаіл ВАСІЛЮЧАК, старшыня савета ветэранаў Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта.***

— Зноў пытанне, якое літаральна прыціскае мяне да сценкі... Што магу адказаць? Пачнецца рост вытворчасці ў рэспубліцы, пойдуць сродкі ў бюджэт — абавязкова будуць павялічаны аклады работнікам навукі, культуры, адукацыі. Пакуль жа такой рэальнай магчымасці проста няма.

***Майму мужу 58 з паловай гадоў. На пенсію ён пайшоў у 55. Цяпер яго скарачаюць. Але ці маюць кіраўнікі на гэта права?***

***Ганна ПЛАЎНІК, г. Мінск.***

— Паважаная Ганна Дзмітрыеўна! На жаль, абрадаваць ці суцешыць вас не магу: кіраўнікі вытворчасці, дзе працуе ваш муж, на гэта маюць поўнае права.

***Скажыце, калі ласка, калі нашы славутыя банкіры перастануць рабаваць нас, простых, і так ужо такіх бедных людзей? Спачатку абясцэнілі нашы ўклады, потым ваш славуты Багданкевіч зноў падмануў нас... За што такія здзекі над людзьмі?!***

***В. ЗАЙКО, Навагрудскі раён.***

***Паважаны Сямён Георгіевіч!***

***Адкажыце нам: па якому артыкулу Канстытуцыі нас абрабавалі? У нас аднялі ўсё, што мы сабралі на старасць. Дакуль мы будзем адчуваць несправядлівасць? Мы адмаўлялі самі сабе ва ўсім, а нашы грошыкі трапілі ў кішэні вышэйшым чынам, іх дзецям, банкірам... Пазычце нам па 10—20 мільёнаў рублёў, каб мы маглі ўнесці іх у заклад у банкі з разлікам на тое, каб праз год атрымаць працэнты за некалі ўкрадзеныя ў нас 5 ці 10 тысяч. Хто такі разумны і дадумаўся да такога?.. Дарэчы, у час перадвыбарнай барацьбы ўсе кандыдаты ў дэпутаты абяцалі нам вярнуць уклады, а цяпер яны чамусьці маўчаць...***

***Група ветэранаў працы з г. Віцебска.***

**З такімі ж пытаннямі да нас звярнулася К. ШПАК з Калінкавіцкага, Мікалай АЎСІЕВІЧ з Талачынскага, Васіль ПЕТРАКОЎ з Мядзельскага раёнаў, мінчане Алена ТАРАСЕВІЧ і Віктар ЖАРДЗЕЦКІ, Канстанцін ЦІТОВІЧ з Брэста.**

— З праблемамі падманутых укладчыкаў мне, паверце, даводзіцца сутыкацца ледзь не кожны дзень. Але ж цяперашняе кіраўніцтва не мае да іх абсалютна ніякіх адносінаў. Так, шмат было абяцанняў з боку будучых дэпутатаў Вярхоўнага Савета, аднак ні яны, ні хто-небудзь іншы выправіць сітуацыю пакуль што не ў сілах. У дзяржавы няма сродкаў кампенсаваць насельніцтву страчаныя ўклады. Тым не менш, Вярхоўны Савет пачаў ужо пошук шляхоў вырашэння праблемы. Нядаўна ў друку апублікаваны праект закона Рэспублікі Беларусь аб вяртанні грамадзянам страт ад абясцэньвання ўкладаў у Ашчадным банку і аблігацый мэтавай беспрацэнтнай пазыкі 1990 года, распрацаваны фракцыяй «Грамадзянскае дзеянне», ёсць, наколькі я ведаю, і іншыя думкі і ідэі, так што будзем спадзявацца на станоўчы зыход.

***Паважаны Сямён Георгіевіч!***

***Дэлегаты 5-й Гродзенскай гарадской канферэнцыі ветэранаў вайны, працы і праваахоўных органаў з абурэннем адгукнуліся аб удзеле дэпутатаў Вярхоўнага Савета XIII склікання ў розных акцыях супраць выканаўчай улады, якія прайшлі ў Мінску.***

***22 лютага з антыпрэзідэнцкімі прамовамі на сесіі выступілі Грыб, Ганчар і іншыя дэпутаты.***

***У прэс-цэнтры Вярхоўнага Савета адбылася прэс-канферэнцыя «Заканадаўчая ўлада і незалежнасць Рэспублікі Беларусь» з удзелам дэпутатаў Багданкевіча, Дабравольскага. На думку выступаўшых — Пазняка, Быкава, Навумчыка, кіраўніка фракцыі «Грамадзянскае адзінства», у рэспубліцы адбываецца замах на суверэнітэт Беларусі. Але наш народ за апошнія 5 гадоў удосталь наеўся «прывабнасцей» гэтага суверэннага жыцця... Можна з упэўненасцю сказаць: Расія пайшла насустрач беларускаму Прэзідэнту, і «нулявы варыянт» — бясспрэчная заслуга Аляксандра Лукашэнкі і яго каманды. Але ў адказ 24 сакавіка ў Мінску БНФ праведзены несанкцыяніраванае шэсце, мітынгоўшчына пад бела-чырвона-белымі сцягамі і хуліганскія дзеянні супраць супрацоўнікаў міліцыі, выступленні Багданкевіча, Знаўца і вашага намесніка Карпенкі.***

***Такія дзеянні «слуг народа» прымусяць Прэзідэнта прымаць непапулярныя меры... Хто працягвае стаяць у апазіцыі да Прэзідэнта? Шушкевіч, Ганчар, Грыб, ваш намеснік Карпенка. Хто актыўнічаў на мітынгу 24 сакавіка? Ён жа, Карпенка. Але ўсяму гэтаму будзе пакладзены канец, такая думка дэлегатаў нашай гарадской канферэнцыі...***

***Ад імя дэлегатаў канферэнцыі — Анатоль ЦІТОЎ, г. Гродна.***

***Як можа Г. Карпенка прымаць афіцыйныя замежныя дэлегацыі пасля таго, як ён выступіў на мітынгу 24 сакавіка?***

***Мінчанін НАПРЭЕЎ (імя не назваў).***

***15 сакавіка, у гадавіну прыняцця Канстытуцыі, у Мінску быў наладжаны мітынг у абарону Канстытуцыі і нашых канстытуцыйных правоў (невядома толькі ад імя каго...). Дык вось, публіка, якая прысутнічала на ім, трымала мноства сцягоў, якія народ адхіліў на рэферэндуме і сваёй воляй устанавіў новыя сцяг і герб. Такім чынам, гэтыя людзі парушылі Канстытуцыю, якую яны спрабавалі абараняць.***

***Навокал палітыканства, навокал нас адурманьваюць. А самае галоўнае і, можа быць, самае страшэннае тое, што на гэты мітынг прыйшлі і пад гэтымі сцягамі выступалі нашы заканадаўцы — дэпутаты Вярхоўнага Савета Грыб, Багданкевіч, Карпенка. Я лічу, што гэтыя дэпутаты не спрыяюць выкананню і захаванню нашых законаў, а наадварот. Тым самым яны павінны несці адказнасць перад Вярхоўным Саветам, перад выбаршчыкамі.***

***Міхаіл ТАЛПЫГА, г. Магілёў.***

— Людзі бачаць сёння ўсё. Яны законна і правільна выказваюць сваё абурэнне. І я асабіста абураўся дзеяннямі некаторых дэпутатаў Вярхоўнага Савета. У прыватнасці, Карпенку зрабіў заўвагу. Яго трыбуна для выступленняў у Вярхоўным Савеце, а не на вуліцы. На вуліцу ён павінен выходзіць калі не па рэкамендацыі сесіі Вярхоўнага Савета, адным з кіраўнікоў якога з'яўляецца, дык хаця б па рашэнню Прэзідыума ВС.

***Калі, нарэшце, будуць прыведзены ў адпаведнасць рашэнні Канстытуцыйнага суда, указы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і заканадаўства нашай дзяржавы?***

***Міхаіл АБРАМОВІЧ, г. Мінск.***

***Законы нашай суверэннай дзяржавы, з аднаго боку, і прэзідэнцкія ўказы — з другога знаходзяцца ў стадыі процістаяння. Такога, відаць, няма ні ў адной цывілізаванай краіне. Ці выпрацоўваецца механізм прывядзення іх у адпаведнасць?***

***Анатоль НЕСЦЯРЭНКА, г. Магілёў.***

***Смех дый годзе: з аднаго боку — законы: аморфныя, нікому не патрэбныя, з другога — грозныя ўказы «цара-бацюхны» Прэзідэнта... Жыві, адным словам, як хочаш... І рабі што хочаш. Але ж гэта — смех скрозь слёзы...***

***Мікалай ФЕДАРЧУК, г. Брэст.***

— З лёгкасцю, і нават з пачуццём гумару, задаюць пытанні чытачы «Звязды». Але няхай яны задумаюцца: а ці проста ўсё гэта?! Усё ж адразу зрабіць немагчыма. Мы ўдзялілі першаступенную ўвагу праблеме падаткаабкладання, бюджэту, іншым пытанням, тым, якія сёння для жыцця нашага грамадства проста неадкладныя.

Працэс прывядзення ў адпаведнасць заканадаўства Рэспублікі Беларусь, указаў Прэзідэнта і іншых нарматыўных актаў ідзе, хаця і паволі. Робіцца гэта і на пасяджэннях Вярхоўнага Савета. Канчатковы ж вынік тут залежыць не толькі ад дэпутатаў, а перш за ўсё ад таго, каго тыя рашэнні датычацца...

У перспектыве мы маем намер распрацаваць і прыняць спецыяльны закон, які будзе прадугледжваць канкрэтныя меры пакарання за парушэнне заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Аднак на гэта, як вы разумееце, патрэбен час.

***Паважаны Старшыня Вярхоўнага Савета!***

***Калі і хто спыніць рост цэн? Колькі і дакуль можна здзекавацца з народа? Заработная плата і пенсіі «замарожаны», а ў магазін хоць ты не ідзі... Не дзяржава, а, прабачце, дурдом...***

***Генадзь КАРПІЕНКА, г. Віцебск.***

***Суадносіны росту цэн і заработнай платы і пенсій не лезуць, як кажуць, ні ў якія вароты. Людзі бяднеюць не па днях, а па гадзінах. Праўда, не ўсе: ёсць і такія, якія проста жыруюць. Ці ёсць выйсце з гэтага крытычнага становішча?***

***Іван МАКАРЭВІЧ, Гродзенская вобласць.***

— З сацыяльных праблем, якія ў прамым сэнсе слова абрынуліся на нашых грамадзян, гэта — адна з самых вострых і балючых. Большасць людзей па-ранейшаму шчыра і сумленна працуюць на сваіх рабочых месцах, а вось заработнай платы не хапае нават на самыя сціплыя патрэбы... Што-кольвечы абяцаць ім, раіць, вядома ж, проста недарэчна. Ды і самі яны ўсё выдатна разумеюць.

У такіх выпадках я кажу звычайна адно і тое ж: наша жыццё палепшыцца толькі тады, калі наладзіцца рытмічнасць і стабільнасць на вытворчасці. А гэта, я перакананы, адбудзецца. Стварэнне Супольніцтва Беларусі і Расіі павінна паспрыяць наладжванню ранейшых эканамічных сувязей. Адрэгулюецца вытворчасць, знойдзе наша прадукцыя свае рынкі збыту — тады і заработная плата павысіцца, і цэны на тавары, прадукты харчавання ўстановяцца рэальныя і стабільныя.

***

**Такім чынам, на большасць пісьмаў і тэлефонных званкоў Старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі даў адказы. Шэраг жа зваротаў чытачоў «Звязды», адрасаваных на яго імя, накіраваны ў адпаведныя міністэрствы, ведамствы, іншыя рэспубліканскія арганізацыі і ўстановы для высвятлення сітуацый і нявырашаных пытанняў непасрэдна на месцах. Пасля атрымання адказаў мы апублікуем і іх на старонках нашай газеты.**

# АБ СТАНЕ СПРАЎ У АГРАПРАМЫСЛОВЫМ КОМПЛЕКСЕ І ШЛЯХАХ ВЫХАДУ З КРЫЗІСУ

## ДАКЛАД ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ М. М. ЧЫГІРА НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА 18 КРАСАВІКА 1996 ГОДА



Становішча ў сельскай гаспадарцы стала хутка пагаршацца пасля ўваходжання рэспублікі ў паласу эканамічнага крызісу. Знізілася ўраджайнасць, упала прадуктыўнасць жывёлы. І без таго неспрыяльную сітуацыю ў сельскай гаспадарцы дадаткова ўскладніла агульнае падзенне дысцыпліны і адказнасці.

Да гэтага прыбавіліся вельмі неспрыяльныя ўмовы надвор'я апошніх двух гадоў. У сельскай гаспадарцы вельмі складаная фінансавая сітуацыя. Амаль цалкам спыніліся інвестыцыйныя працэсы. Слаба папаўняюцца калгасы і саўгасы тэхнікай. У мінулым годзе яны набылі толькі 304 трактары і 34 камбайны.

Вядома, ёсць у аграрным сектары «астравы» параўнальнага дабрабыту. Поспех тут забяспечваецца пераважна энтузіязмам, творчым пошукам і адданасцю зямлі кіраўнікоў гаспадарак. Але, на жаль, станоўчых прыкладаў мала, тыражыраванне перадавога вопыту не атрымліваецца. Сістэма, у якой усё трымаецца толькі на кіраўніках, вельмі слабая, яна не можа быць моцнай, і мы павінны гэта ўлічваць у сваіх практычных дзеяннях.

У сувязі з тым, што наша сельская гаспадарка не забяспечвае патрэб насельніцтва, нарастае імпарт харчавання ў рэспубліку, а гэта вельма небяспечная тэндэнцыя. Бо ў нас гаспадаркі амаль практычна спынілі вырошчваць цыбулю, часнок, памідоры і многіе іншае. У апошні час вельмі многа завозіцца імпартнай морквы. Толькі з Польшчы за мінулы год пастаўлена ў рэспубліку больш чым на 10 мільёнаў долараў яблыкаў. На жаль, нашы калгасы і саўгасы не могуць тут скласці якой-небудзь сур'ёзнай канкурэнцыі.

У цяперашні час заключаюцца буйныя кантракты па пастаўцы ў Мінск капусты з Польшчы. Атрымліваецца, для разлікаў з замежнымі пастаўшчыкамі валюта знойдзецца, а кіраўнікі нашых гаспадарак будуць па-ранейшаму скардзіцца на дрэннае фінансавае становішча і нічога не рабіць для таго, каб раслі свая морква і капуста.

Зразумела, адна з прычын нездавальняючага фінансавага стану гаспадарак — агульнавядомы дыспарытэт цэн. Сітуацыя склалася такім чынам, што на першапачатковым этапе ўваходжання ў рыначную эканоміку мы, як і ўсюды гэта робіцца, спачатку адпусцілі цэны на прамысловую прадукцыю і на працягу двух апошніх гадоў даволі жорстка ўтрымлівалі рост цэн на харчаванне. Натуральна, што сельская гаспадарка многа недаатрымала за рэалізацыю сваёй прадукцыі. Цяпер становішча выраўноўваецца. Новыя закупачныя цэны дастаткова высокія, каб эканамічна зацікавіць вытворцу. Але ў той жа час трэба сказаць, што калі ў нас у сельскагаспадарчай вытворчасці будуць і ў далейшым такія ж паказчыкі эфектыўнасці, якія маем сёння, то мы доўга не зможам выйсці тут з эканамічнага крызісу.

У мінулым годзе надой малака на карову склаў у калгасах і саўгасах усяго 2153 кілаграмы. Сярэднесутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы — 315 грамаў, свіней — 295 грамаў. Расходы кармоў на вытворчасць малака з 1990 па 1995 год павялічыліся на 26 працэнтаў, на вырошчванне буйной рагатай жывёлы — на 29 працэнтаў, свіней — на 24 працэнты і складаюць сёння на 1 кг малака — 1,59 кармавой адзінкі, на 1 кг прывагі буйной рагатай жывёлы — трохі больш за 16 кармавых адзінак і на 1 кг прывагі свіней — 8,54 кармавой адзінкі. Зразумела, што гэтыя паказчыкі вельмі далёкія ад сусветных стандартаў, і калі і далей так гаспадарыць, то мы ніколі не зможам канкурыраваць з замежнымі пастаўшчыкамі сельскагаспадарчай прадукцыі, нават калі будзем абараняць свой рынак, сваіх вытворцаў. З такімі паказчыкамі мы ніколі не будзем мець грошай для пашыранай вытворчасці. Больш таго, ніколі ні адзін урад не зможа стварыць нармальныя, спрыяльныя ўмовы для сельскай гаспадаркі.

Таму адначасова з аказаннем магчымай дапамогі аграрнаму сектару трэба дабівацца павышэння аддачы ад гэтай дапамогі.

Што ў гэтых умовах рабілася ўрадам і што мы мяркуем зрабіць у бліжэйшы час?

Як вядома, пасяўная кампанія 1994 года была праведзена за кошт грашовай эмісіі ў суме паўтара трыльёна рублёў. Усе гэтыя пазыкі сельскай гаспадаркі ў мінулым годзе, па сутнасці справы, спісаны. Спісаны яны не за кошт дадатковай грашовай масы, а за кошт бюджэтных сродкаў. Таму спісанне даўгоў не адбілася на стане спраў на валютнай біржы і не выклікала дадатковай інфляцыі ў рэспубліцы.

Працяг. Пачатак у нумары за 26 красавіка.

У мінулым годзе сельская гаспадарка таксама пастаянна атрымлівала дапамогу. Вядома, вы будзеце гаварыць пра тое, што яе недастаткова, але ўрад даваў столькі сродкаў, колькі мог даць. Былі выдадзены авансы ў памеры 50 працэнтаў кошту пад закупку збожжа. Прычым выдадзены пад пяць працэнтаў гадавых, нягледзячы на тое, што яшчэ ў першым квартале інфляцыя ў нас вымяралася двухзначнай лічбай. Разам з гэтым выдзяляліся сродкі на закупку маладняку буйной рагатай жывёлы, патанненне мінеральных угнаенняў, пагашэнне запазычанасці за камбікармы птушкафабрык і жывёлагадоўчых комплексаў.

У цэлым за 1995 год з улікам расходаў на закупку збожжа было выдзелена 890 мільярдаў ільготнага бюджэтнага крэдыту і 1,2 трыльёна рублёў з пазабюджэтнага фонду падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі.

У выглядзе таварнага крэдыту было выдадзена 195 тысяч тон дызельнага паліва. На жаль, вярнулі толькі 29 тысяч тон і, як заўсёды, у нас атрымліваецца, — той, хто горш працуе, той і не вяртае, з яго, як гаворыцца, як з казла малака.

У цэлым фінансавыя субсідыі дзяржавы прадпрыемствам і арганізацыям Мінсельгасхарчу за мінулы год склалі 4,6 трыльёна рублёў. Гэта значная сума. У перакладзе на валюту, больш за 400 мільёнаў долараў. Гэта тое, што атрымана сельскай гаспадаркай у мінулым годзе беззваротна, у сувязі з дыспарытэтам цэн.

Вы ведаеце таксама, што, аказваючы фінансавую падтрымку сельскай гаспадарцы, мы ўвесь час сочым за станам спраў у гэтым сектары эканомікі. Таму часта звярталіся да пагашэння ці адтэрміноўкі пазык банкаў за атрыманыя крэдыты. У мінулым годзе было адтэрмінавана банкаўскіх крэдытаў на агульную суму больш за 900 мільярдаў рублёў. Пагашэнне іх перанесена на больш познія тэрміны без павелічэння працэнтных ставак за карыстанне крэдытам.

На суму 200 мільярдаў рублёў аказалі дапамогу тым гаспадаркам, дзе былі заменены кіраўнікі. У 1995 годзе была зменшана цана на газ для таго, каб падтрымаць гаспадаркі, якія маюць цяпліцы.

У мінулым годзе ў рэспубліцы пачалося акцыяніраванне перапрацоўчых прадпрыемстваў. Гэта патрэбная і карысная справа. На жаль, яна крыху зацягнулася, не дае пакуль эфекту. Але мы лічым, што калі прадпрыемствы перапрацоўкі і абслугоўвання сельскай гаспадаркі стануць уласнасцю калгасаў і саўгасаў, пастаўшчыкоў сельскагаспадарчай сыравіны, то знікне жаданне будаваць свае невялікія, неэфектыўныя вытворчасці па перапрацоўцы мяса ці малака. І спадзяёмся, што акцыянеры змогуць уздзейнічаць на стан спраў на гэтых прадпрыемствах.

Паколькі калгасы і саўгасы сёння не ў стане будаваць за кошт уласных сродкаў жыллё для сваіх працаўнікоў, Кабінет Міністраў нядаўна прыняў пастанову, згодна з якой цана на лес, што акупляецца для будаўніцтва жылля ў сельскай мясцовасці, зменшана на 70 працэнтаў. Гэта льгота распаўсюджваецца і на гарадскіх жыхароў, якія захочуць пераехаць на працу ў сельскую мясцовасць.

Урад праводзіць курс на паступовае павелічэнне закупачных цэн на сельскагаспадарчую прадукцыю. Мы павінны паступова адысці ад разнастайных датацый і субсідый сельскай гаспадарцы і за кошт высокіх закупачных цэн стварыць умовы для вядзення пашыранай вытворчасці ў гэтай важнай сферы эканомікі.

Калі ў 1994 годзе закупачная цана на збожжа складала 43,9 долара, то ў мінулым годзе мы змаглі падняць апошнюю сярэднюю цану да 67,6 долара. Праўда, у апошні час назіраецца, я сказаў бы, некіруемы рост цэн за збожжа, і гэта з'явілася для нас нечаканасцю. Калі сёння гаспадарка дзе-небудзь набудзе кармавы ячмень за 125 долараў, то гэта лічыцца вялікай знаходкай, а цэны падымаюцца да 140 долараў і вышэй. Таму ставім перад сабой задачу сярэднюю закупачную цану на збожжа ў бягучым годзе падняць не менш чым да 130 долараў за тону.

Вельмі складаная фінансавая сітуацыя была ў жывёлагадоўлі, асабліва па малочнаму статку. Таму закупачныя цэны ў валютным эквіваленце на малако былі падняты больш чым у тры разы і склалі ў мінулым годзе 98 долараў за тону. У гэтым годзе мяркуецца іх павялічыць да 190 долараў. Але за кошт цаны нічога не ўдасца зрабіць, калі не ажыццявіць канкрэтных рэформаў у перапрацоўчай прамысловасці. Трэба зменшыць страты на перапрацоўку.

Закупачная цана на буйную рагатую жывёлу ў 1995 годзе падвоілася і склала 509 долараў за тону жывой вагі. На сённяшні дзень яна складае ўжо 787 долараў за тону жывой вагі. Мы мяркуем, што зможам далей працягнуць нарошчванне закупачных цэн і тым самым палепшыць фінансавы стан гаспадарак, якія займаюцца продажам буйной рагатай жывёлы.

Аналагічнае становішча і з закупкай свініны. У мінулым годзе цана павялічылася ў два разы. Сёння яна складае ў сярэднім 1020 долараў за тону жывой вагі, і мы разлічваем на яе далейшы рост.

Крыху іншая сітуацыя па птушцы. Гэта галіна знаходзіцца ў больш прымальнай, больш простай сітуацыі ў параўнанні з іншымі галінамі. Тут у апошні час змаглі значна павялічыць прывагі і скараціць страты кармоў. Таму птушкагадоўля зможа без асаблівых праблем весці простае, а можа нават пашыранае ўзнаўленне.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета знаёмы з асноўнымі параметрамі бюджэту на бягучы год. І ўсё ж некаторыя лічбы я паўтару.

У 1996 годзе прадугледжана стварыць пазабюджэтны фонд у памеры 2,6 трыльёна рублёў. Ён будзе накіраваны на падтрымку сельскагаспадарчых вытворцаў. У цяперашні час гэты фонд выкарыстоўваецца перш за ўсё на тое, каб зрабіць таннейшым набыццё ўгнаенняў. Мы мяркуем, што ў другім паўгоддзі будзе створаны фонд для арганізацыі лізінгавых паслуг сельскай гаспадарцы.

Фінансаванне комплексных праграм выглядае наступным чынам. Капіталаўкладанні — 1 трыльён 408 мільярдаў рублёў, вапнаванне глебы — 478 мільярдаў рублёў, утрыманне бюджэтных арганізацый, тых, якія ў сельскай гаспадарцы ўтрымліваюцца за кошт бюджэту, — 484 мільярды рублёў, змяншэнне цаны мінеральных угнаенняў і сродкаў аховы раслін — 973 мільярды рублёў. Агульны вынік — 3,5 трыльёна рублёў. Да гэтага дадайце 2,6 трыльёна рублёў пазабюджэтнага фонду. Такім чынам, сельская гаспадарка ў бягучым годзе атрымае 5,1 трыльёна рублёў.

Акрамя таго, вы ведаеце, што сельскай гаспадарцы выдзелена з дзяржрэзерву 120 тысяч тон дызельнага паліва. 30 тысяч тон мы пакідалі на мерапрыемствы супраць паводкі, але паколькі паводка завяршылася і асаблівай пагрозы не ўяўляе, прынята рашэнне ў бліжэйшыя дні і гэта паліва аддаць сельскай гаспадарцы для правядзення пасяўной кампаніі.

У бягучым годзе сельская гаспадарка ўжо атрымала 750 мільярдаў рублёў авансаў на будучыя закупкі збожжа, 581 мільярд рублёў — на патанненне мінеральных угнаенняў, у выглядзе таварнага крэдыту выдзелена 318 мільярдаў рублёў. Усяго з пачатку года аграрны сектар атрымаў падтрымку ў адзін трыльён 848 мільярдаў рублёў.

Акрамя таго, на мінулым тыдні прынята рашэнне аб выдзяленні 30 мільёнаў долараў для дадатковай закупкі азотных угнаенняў. У цэлым мы чакаем, што будзе ўнесена мінеральных угнаенняў дзесьці працэнтаў на 35 больш, чым у пасяўную кампанію мінулага года.

Трэба таксама ўлічыць, што акрамя бюджэтных асігнаванняў, на сённяшні дзень на падтрымку сельскай гаспадаркі ўжо выдаткавана з небюджэтнага фонду 687 мільярдаў рублёў. 150 мільярдаў рублёў выдзелена на мінулым тыдні ў сувязі з тым, што крытычная сітуацыя склалася з кармамі на жывёлагадоўчых комплексах. Таксама адпушчаны сродкі на падтрымку маладых кіраўнікоў, якія прыходзяць у гаспадаркі, што поўнасцю разваліліся і не ведаюць, з чаго пачаць сваю практычную дзейнасць, паколькі грошай на рахунку няма.

У працэсе падрыхтоўкі да разгляду становішча спраў у аграпрамысловым комплексе на пасяджэнні аграрнай камісіі Вярхоўнага Савета прагучалі, на мой погляд, некаторыя, можа быць, і незаслужаныя папрокі ў адрас урада. У чым іх сутнасць?

Нядаўна была прапанавана, і вы прынялі яе, новая схема ўплаты падатку на паліва. Цяпер любы гандляр нафтапрадуктамі трапляе пад падатковы прэс і абавязаны плаціць падаткі. Вядома, што ў выніку гэтага нерэзідэнты, перш за ўсё, а нерэзідэнтаў працуе на нашым рынку прынамсі працэнтаў 60, пачалі павышэнне цэн на дызельнае паліва і бензін. Для сельскай гаспадаркі цана на бензін павялічылася дзесьці на 20 працэнтаў, на дызельнае паліва — на 13 працэнтаў. Паводле папярэдніх разлікаў дадатковыя расходы сельскай гаспадаркі ў сувязі з павелічэннем цэн складуць у разліку на год каля 500 мільярдаў рублёў. Відавочна, гэта тая сума, аб якой мы можам дыскутаваць і прымаць яе ў разлік пры нашых далейшых дзеяннях па падтрымцы аграпрамысловай вытворчасці. На жаль, далёка не ўсе дэпутаты з гэтым згодны.

Калі гаварыць аб бягучых фінансавых справах, то я назваў бы дзве асноўныя, самыя важныя лічбы. Крэдыторская запазычанасць па выніках дзейнасці калгасаў і саўгасаў у 1995 годзе склала 3 трыльёны 583 мільярды рублёў. Гэта тая сума, якую калгасы і саўгасы павінны пастаўшчыкам за матэрыяльна-тэхнічныя рэсурсы, па плацяжах у бюджэт. І дэбіторская запазычанасць, гэта значыць тое, што павінны перш за ўсё прадпрыемствы перапрацоўчай прамысловасці, складае 1 трыльён 267 мільярдаў рублёў. Як бачыце, крэдыторская запазычанасць перавышае дэбіторскую запазычанасць на 2,4 трыльёна рублёў.

Гэта пра што гаворыць? Гэта гаворыць пра тое, што ўсё-такі па мінуламу году нягледзячы на даволі добрую рэнтабельнасць (паводле ўдакладненых даных, яна складае 13,5 працэнта) сельская гаспадарка не змагла вярнуць свае расходы ў памеры 2,4 трыльёна рублёў. Выклікана гэта перш за ўсё тым, што ўзровень інфляцыі, асабліва ў першым квартале мінулага года, быў яшчэ даволі высокі, а спісанне матэрыяльных затрат праводзілася па ранейшых старых цэнах. Рэнтабельнасць узнялася, але новы аднаўленчы працэс сельгаспрадпрыемства пачаць не змаглі, таму што новае прапанаванне матэрыяльных рэсурсаў адбывалася ўжо па новых цэнах, якія перавышалі ў паўтара, два, а таксама ў тры разы цэны ў параўнанні з папярэднім абаротам.

Сельская гаспадарка і акрамя гэтага на 1 студзеня 1996 года мела крэдытаў банкаў крыху больш за 1 трыльён рублёў. Калі параўноўваць гэту суму з той падтрымкай, якая намячаецца ў бягучым годзе, па ўсіх крыніцах фінансавання, уключаючы небюджэтны фонд у аб'ёме 5,1 трыльёна рублёў, то крэдыты банка сёння не маюць нейкай сур'ёзнай пагрозы для стану аграрнага сектара ў цэлым па рэспубліцы. Асобныя гаспадаркі наогул не бралі крэдытаў банка, і ў той жа час нямала такіх, якія закрэдытаваны і па сутнасці справы сёння не маюць юрыдычнага права звяртацца ў банк за атрыманнем новых крэдытаў.

На разліковых рахунках калгасаў і саўгасаў на 1 красавіка мелася 456 мільярдаў рублёў. Гэта тая сума, якая, я лічу, не з лішкам, але ў мінімальных патрэбнасцях зможа забяспечыць сельскую гаспадарку неабходнымі матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі.

У ходзе разгляду сітуацыі ў аграрным сектары на камісіі ўчора і пазаўчора я яшчэ раз пераканаўся, што ў нас ёсць праблемы і ёсць неабходнасць разглядаць пытанне аб больш прадметнай абароне нашага таваравытворцы, таму што пастаўкі сельскагаспадарчай прадукцыі заходніх краін пастаянна нарошчваюцца і складаюць даволі сур'ёзную канкурэнцыю.

Абмяркоўвалася пытанне па ўвозных мытных пошлінах, па цукру, па цукру-сырцу. Вы ведаеце, якая сітуацыя склалася на сённяшні дзень. Той цукар, які вырабляецца ў рэспубліцы, не можа канкурыраваць з увозным цукрам і ёсць праблемы з яго рэалізацыяй.

Таму нам трэба хутчэй рэфарміраваць сельскагаспадарчую эканоміку, разглядаць тую праграму, аб якой я гаварыў у самым пачатку, каб атрымаць канкрэтныя прапановы як з боку вучоных, так і з боку практыкаў, дэпутатаў, аграрнай камісіі. Усе гэтыя прапановы, вядома, будуць вывучацца і ў канчатковым выніку гэта праграма будзе прапанавана для разгляду Вярхоўнаму Савету.

Цяпер аб праекце пастановы па гэтаму пытанню. Трэба, напэўна, у пастанове не толькі абвінавачваць урад у нейкіх недапрацоўках, а яны, вядома, ёсць, але і прызнаць, што ў нас на гэтым этапе нізкая эфектыўнасць сельскагаспадарчай вытворчасці. Гэта факт, ад яго нікуды не дзенешся, і тут мы павінны ставіць канкрэтныя задачы па паляпшэнню справы.

У прыватнасці, некаторыя дэпутаты-аграрнікі прапануюць увесці лімітаванне агульнагаспадарчых і агульнавытворчых затрат, якія часам у сабекошце прадукцыі складаюць да 50 працэнтаў. Я такі падыход падтрымліваю. Лічу таксама, што трэба было б ставіць пытанне і аб сістэме дзеючай аплаты працы ў аграрным сектары. Вывучаючы статыстыку, мы бачым, што ёсць нямала прыкладаў, калі чым горшае становішча ў гаспадарцы, тым вышэйшая аплата працы. Незалежна ад фінансавага стану аплата працы праводзіцца ў пачатку года, калі няма прадукцыі, атрымліваюцца крэдыты пад высокія працэнты, набываюцца ўласныя абаротныя сродкі. А вынік сумны.

У той жа час буйныя, салідныя гаспадаркі, якія маюць добрую рэнтабельнасць, як правіла, паводзяць сябе больш асцярожна ў гэтых пытаннях. Такіх прыкладаў нямала, таму настаў час рэфарміравання дзеючай сістэмы аплаты працы ў аграрным сектары. Я лічу, што гэта пытанне павінна знайсці адлюстраванне ў прапануемай пастанове Вярхоўнага Савета.

Вы ведаеце, што дзякуючы дагаворанасцям з Расіяй усім гаспадарчым суб'ектам будзе прадастаўлена адтэрміноўка аплаты за энерганосьбіты. Закране гэта, вядома, і калгасы, саўгасы. Мы намячаем гэту адтэрміноўку прадаставіць на наступных умовах. На 1996 год будзе дадзена адтэрміноўка без якой-небудзь платы працэнтаў і намячаецца пагашэнне гэтай адтэрмінаванай сумы ў валютным эквіваленце. У 1997—1998 гадах, калі не будзе своечасова праводзіцца выплата, будуць налічвацца працэнты за несвоечасовую выплату гэтай адтэрміноўкі.

Учора абмяркоўвалася таксама пытанне, і я разумею яго заканамернасць, аб высокіх працэнтных банкаўскіх стаўках, асабліва ў першай палове мінулага года, калі калгасы і саўгасы атрымлівалі крэдыты пад 500, а то і 600 працэнтаў гадавых пры стабільным курсе на біржы. Гэта, вядома, уцягнула гэтыя гаспадаркі ў каласальныя страты. Вядома, што яны не могуць вярнуць не толькі асноўную суму, але і пагасіць працэнты ў такіх высокіх памерах. Думаю, што Кабінету Міністраў трэба сумесна з Нацыянальным банкам і «Аграпрамбанкам» разгледзець гэта пытанне і, напэўна, устанавіць якое-небудзь абмежаванне там, дзе працэнты вельмі высокія. А можа быць нават дамовіцца, каб яны не перавышалі 100 або 50 працэнтаў гадавых. Але гаварыць канкрэтна па ўзроўню гэтай працэнтнай стаўкі

**(Заканчэнне на 6-й стар.)**

# ВЕЦЕР НАД ПРЫПЯЦЦЮ ПАХНЕ ПАЛЫНАМ...

НА ГЭТАЙ ЗЯМЛІ павінны былі нараджацца і тварыць мастакі і паэты. Але, паводле высноў навукоўцаў, людзі вернуцца сюды ўжо не пры нашым жыцці: у 30-кіламетровую «зону» — гадоў праз 60 у лепшым выпадку. У «10-кіламетроўку» — магчыма, ніколі.

Калісьці тут шукалі ўлетку папараць-кветку. Калісьці звінелі дзіцячыя галасы, песні на зажынкі, і чуўся водгук хатынскіх званоў ля каменных стэлаў былых вёсак, спаленых разам з жыхарамі ў вайну. Такіх, як Пералессе — яно больш не адрадзілася...

Калісьці стаялі тут старажытныя храмы. Але адны знеслі даўным-даўно з-за старасці, другія спалілі пры камуністах, ад трэціх таксама паціху-памалу не засталося следу на гэтай зямлі.

І тады «ўпала з неба вялікая зорка, што гарыць, падобна да свяцільні... Імя той зоркі палын...»

След палыну застаўся на агнём апечанай зямлі. Водбліск агню праз гады застаўся ў чалавечых душах.

Напярэдадні светлага дня Радаўніцы мы сустрэліся з дзіўнай хойніцкай зямлёй — адной з тых, што дзесяць гадоў таму першай прыняла на сябе чарнобыльскую навалу.

## 1. ПАМЕЖЖА

Яшчэ нічога не ведаючы пра Ясеву гару і вёску Масаны, ступаеш на ўзвышша — і змаўкаеш. Знянацку ці не, але «хвіліна маўчання» атрымліваецца сама сабой.

Спачатку адсюль бачыш толькі прыгажосць. Зямную і незямную. Боскую?

— На гэтым самым месцы стаяла царква, — чытае мае думкі Віктар Фёдараў, намеснік дырэктара Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка па навуковай частцы. Прыехаўшы сюды ў чэрвені 86-га, Віктар Мікалаевіч, здаецца, вывучыў не толькі мясціны гэтыя, але і рэакцыю на першае знаёмства з імі. Напэўна, па Ясевай гары кожнаму падсвядома хочацца перахрысціцца. Хаця царкву Масанаўскую закрылі яшчэ ў 1837-м годзе, а потым знеслі, пабудаваўшы перад гэтым два храмы ў недалёкіх адсюль Радзіне і Баршчоўцы.

Храмаў больш няма...

Затое ёсць Белая Русь — гэта назва пайшла, відаць, з гэтага самага месца. Каля Ясевай гары, сведчыць гісторыя, стагоддзі таму назад спынілі мангола-татарскае нашэсце. Уявіце: стаіш, а з аднаго боку Кіеў, з другога — Белая Русь... Праўда, зараз, у канцы стагоддзя дваццатага, памежжа гэтае бачыцца ў святле крыху іншым.

Апошні двор у Масанах, што амаль на беразе возера Пярсток (з украінскім і беларускім берагамі) — мясцовая легенда. Крыху анекдатычная. Яшчэ да Чарнобыля гаспадар, пабудаваўшы хату на беларускай тэрыторыі, жывёлу хатнюю часткова пасяліў на Украіне. Потым мяжа паміж краінамі-суседкамі выклікала неўразуменне ў пагранічнікаў: так яна і праходзіць па сярэдзіне хлява.

Зараз брацкія рэспублікі па-брацку дзеляць між сабой «зону».

Кіеўскае радыё перадало дождж, які павінен змыць-прыбіць радыяцыйны пыл. Пакуль жа над лесам за Масанамі (ужо ўкраінскім лесам) — толькі сіняя смуга. Скрозь яе чарнее нешта, што мы заўважаем не адразу...

— Саркафаг, — тлумачыць Віктар Мікалаевіч.

— Той самы?

Да «таго самага» — усяго дзевяць кіламетраў. Напрасткі ці, як кажуць, «па паветры». Чарнобыль пайшоў на Белую Русь таксама вось адсюль.

У тую ноч, калі адчыніліся гэтыя «вароты пекла», ніхто, здаецца, нават не ўяўляў усёй дзікасці ракавога супадзення ў часе і прасторы: сейсмічная актыўнасць у зямных нетрах, аб якой даўно гаварылі навукоўцы, «наклалася» на атмасферны цыклон і планавы эксперымент на атамнай станцыі. Жыхары Масаноў адчулі трывогу ледзь не раней за ўсіх — як і людзі з іншых вёсак чарнобыльскай ваколіцы. Зямля глуха гудзела, а зарыва над лесам было страшэнным. Неба гарэла. Старыя хрысціліся, гаварылі аб канцы свету...

У Мінску магутнасць дозы гама-выпраменьвання «скокнула» так, што спрацавала аварыйная сігналізацыя на прыборах у Соснах. Вучоныя з Акадэміі навук БССР тэрмінова звязаліся з Масквою, дзе ў гэты час знаходзіўся тагачасны кіраўнік рэспублікі Слюнькоў. І пачулі: не трэба хвалявацца, гэта не ў нас, а на Украіне.

Украіна ўжо 27-га эвакуіравала людзей... Па гэты бок мяжы на дарогах з гэтага ж дня стаялі пасты міліцыі, абмяжоўваючы праезд.

Ужо білі трывогу еўрапейскія краіны: шведскія ўлады, напрыклад, папярэдзілі людзей аб небяспецы знаходжання на «чыстым паветры».

На Гомельшчыне дзяцей пачалі вывозіць 30-га красавіка. Дарослых — 4 мая. Хатняй жывёле пашанцавала больш: рагатыя жыхары былі эвакуіраваны 2-га...

Нельга сказаць, што сёння ў Масанах ніхто не жыве. Не, гэтак званых «самасёлаў» няма. Толькі дзікі блукаюць, статкамі і паасобку, селяцца ў пустых хлявах. Але ім ёсць каго пужаць. У доме пад беларускім сцягам, змяняючы адзін аднаго праз чатыры дні, жывуць вучоныя. Андрэй Вакар, кандыдат тэхнічных навук і спецыяліст па вадзе, перад нашым прыездам не мог выйсці за парог: дзікі «абследавалі» двор. Заядлы рыбак, Анатоль Ягоравіч вядзе нас на возера: «Рыбы тут вельмі многа, але лавіць яе нельга. Дарэчы, усё жывое — рыба, жывёлы ў лесе, сам лес — забруджана сёння ў шмат разоў болей, чым 10 гадоў таму». Кандыдат біялагічных навук Юрый Іванавіч Сяржанін паказвае нам сціплае жытло. Заходзячы, лепш памыць абутак. Ваду на базу ў Масаны прывозяць з месцаў не вельмі далёкіх адсюль, але менш забруджаных. У выніку гама-фон у хаце «ўсяго» ў 500 разоў перавышае норму. На вуліцы — у 6000. У ляску (тым самым, што ўжо ўкраінскі) гама-фон бывае да 8000 мікрарэнтген! Норма — 0,12. Лічыце... На Ясевай гары можна ставіць, здаецца, ужо чацвёрты помнік: Белай Русі, святому храму, Чорнай былі... і навукоўцам.

Дарэчы, задача апошніх тут не абмяжоўваецца маніторынгам прыроднага асяроддзя. Саркафаг на станцыі, збудаванай у зоне сейсмаактыўнасці, час ад часу «трашчыць» і дае выкіды — з суседняй краіны да нас. Так што ў пустой вёсцы, дзе развяваецца беларускі сцяг, гаворачы словамі Віктара Фёдарава, «наш памежны фарпост». Заснаваны ён месяц таму. Якая б ні была сімпатычная дзяржава-суседка, але па-суседску забруджваць нашу тэрыторыю дазваляць не след... Хаця, вядома, справы медыцынскія і навуковыя добра патыхаюць сёння эканомікай ды палітыкай. Прынамсі, як і дзесяць гадоў таму. Праўда, за гэты час радыяцыя ў «зоне адчужэння» ўпала ў 100 разоў. У параўнанні з тым, што было, — амаль як на курорце.

**Таццяна СНІТКО,**
**спецыяльны карэспандэнт «Звязды».**
**Фота Віктара ДРАЧОВА**
***(Працяг будзе.).***



НА ЗДЫМКАХ: **Юрый СЯРЖАНІН і Андрэй ВАКАР** — навуковы «дэсант» у 10-кіламетровай зоне; вёска Масаны.

*Крывавы водсвет палыновай зоркі:*
*І боль, і жаль — стагоддзяў*
*будзе мала,*
*Каб зноў жыццё бурліла*
*ў водах горкіх,*
*Каб зноў на Беларусі шчасна стала.*



*САМАСЁЛЫ*

# ЖЫЦЦЁ Ў РАМКІ НЕ ЗАГОНІШ...

**ВЁСКА БАРТАЛАМЕЕЎКА ў Веткаўскім раёне вызначаецца вялікімі памерамі і вялікай забруджанасцю радыенуклідамі. У самім населеным пункце — сорак кюры на квадратны кіламетр, а за ваколіцай — сорак сем і болей. Натуральна, што, згодна з прагнозамі вучоных і ўрачоў, пражыванне тут «раўназначнае самазабойству». Да 1991 года арганізаванае адсяленне людзей адсюль закончылася. Трыста сем'яў атрымалі кватэры і катэджы ў Гомелі, Гродне, вёсках Холмеч, Рудня, Марымонава Рэчыцкага і Гомельскага раёнаў.**

Разам з Эдуардам Кавалёвым, які ў райвыканкоме адказвае за чарнобыльскія пытанні, крочым па вуліцах Барталамееўкі, што разбягаюцца ад шашы Ветка—Свяцілавічы. Вакол — цагляныя і драўляныя хаты і дамы з выбітымі, павыдзіранымі вокнамі, разбуранымі дахамі і сценамі, зарослыя быльнягом. Ад убачанага самотна на душы: колькі матэрыяльных і маральных страт панеслі вяскоўцы, колькі парушана людскіх лёсаў! Праўда, супакойвала толькі адна думка: галоўнае было ўратаваць людзей, а хаты, што ж — з сабой не возьмеш, бо яны нашпігаваны радыяцыяй...

Недзе заліўся брэхам сабака.

— Пэўна, у Музычэнкаў, — сказаў Эдуард Сямёнавіч. Ён родам якраз з гэтай вёскі. Часта наведваецца сюды не толькі для таго, каб паглядзець на бацькоўскую хату, але яшчэ і яшчэ раз пагаварыць з людзьмі (якія ніяк не хочуць нікуды пераязджаць адсюль, хаця кватэры ім выдзелены ў іншых месцах і зараз пустуюць), каб пераканаць іх у тым, якой небяспецы яны сябе падвяргаюць.

Так і ёсць, каля хаты Алены і Івана Музычэнкаў — купка людзей, трое з якіх прыехалі з Веткі навесці напярэдадні Радаўніцы парадак на могілках сваіх родных. Па вуліцы ходзяць куры, на дарозе разлегліся сабакі. З клёнаў у трохлітровыя слоікі капае сок. Насупраць дома ў гняздзе клякочуць два буслы.

Да мяне з велікодным чырвоным яйкам падышла маленькая дзяўчынка, моўчкі пачаставала ім.

— Гэта наша Анечка, унучка. Два гадкі ёй, — чамусьці павільгатнелі вочы ў гаспадыні, Алены Мікітаўны. — Беднае дзіцятка. Наш сын Сашка з нявесткай былі пераселены ў Светлагорск. Ён апынуўся без работы, у сям'і пачаліся сваркі, вось ён і вярнуўся назад. А нявестка хутка прытарабаніла сюды Анечку. Сказала на тыдзень, а носа ўжо не паказвае некалькі месяцаў.

З самага пачатку старым выдзелілі кватэру ў райцэнтры. Іван Барысавіч паехаў туды жыць, бо ўладкаваўся на працу ў саўгас «Веткаўскі» слесарам, а Алена Мікітаўна заявіла: з родных мясцін — ні кроку, буду жыць тут адна. На той час яна ўжо была пенсіянеркай, таму і разважыла так. Ехаць жыць у іншыя месцы, дзе цябе прымуць нямаведама як, перажываць, нервавацца — толькі здароўе згубіш. А лёс у кожнага чалавека такі: колькі Богам адведзена, столькі і пражывеш.

Вось такая «ідэалогія» ў жанчыны, да якой неўзабаве вярнуўся яе муж. І не толькі ў яе, але і ў іншых жыхароў Барталамееўкі — пенсіянераў Міхаіла Дзярбеева, Рыгора Сорыкава, Івана Навічкова, Аксінні Патаевай, Праскоўі Цубатавай, Матруны Бычковай. Усе яны, аб'яднаныя адзінотай, збіраюцца разам, каб засеяць агароды з дапамогай каня, які маецца ў Музычэнкаў. Не пакідаюць адзін аднаго ў бядзе, наладжваюць сумесныя «вечары» з гульнёй у карты і даміно, бо тэлевізары не працуюць па прычыне адсутнасці ў вёсцы электрычнасці, радыё таксама няма, пра газеты няма чаго і гаварыць.

Але што цікава: усе яны ў курсе спраў нашай краіны, бо за пенсіяй наведваюцца ў райцэнтр, які размешчаны непадалёку, дзе ў іх многа родзічаў і знаёмых. Ці ходзяць у лес па грыбы і ягады? Абавязкова. І ядуць ўсё, што вырошчваюць і гадуюць у гаспадарцы. Музычэнкі, напрыклад, трымаюць цялушку, гусей, якіх у чарадзе налічвалася летась больш як трыццаць галоў. У Міхаіла Дзярбеева ёсць ручны млын, на якім ён меле жыта для курэй. Людзі рэгулярна мыюцца ў сваіх лазнях, па хлеб ездзяць у Ветку, дзе набываюць і іншыя прадукты харчавання, бо на месцы іх ніхто не абслугоўвае.

Пэўнай нечаканасцю для мяне, напрыклад, было тое, што за ўвесь гэты час, як прызналіся самасёлы, ніхто з іх у бальніцу не звяртаўся. Праўда, у Міхаіла Дзярбеева радыкуліт яшчэ з дачарнобыльскіх часоў, а Аляксандр Музычэнка, якому трыццаць гадоў, перанёс аперацыю. Але маці і бацька адносяць гэта за рахунак таго, што сын пажыў у чыстай зоне і папсаваў нервы з нявесткай, якая падала заяву на скасаванне шлюбу.

— Я ўпэўнена ў адным, — гаварыла Алена Мікітаўна, — што калі б куды пераехала з роднай вёскі, ужо даўно апынулася б на могілках. Як многія, куды маладзейшыя за нас, якія аддалі Богу душу на новых месцах, але якіх пахавалі на нашых могілках.

— Дарэчы, — дапаўняе яе Міхаіл Дзярбееў, — колькі нас ні правяралі рознымі прыборамі як нашы ўрачы, так і нямецкія, нічога падазронага ў нас не выявілі. Нават у Анечкі.

— Атрымліваецца, у вас тут сапраўдны рай?

— Ды не, — жывём як можам. Спрабавалі нас вытурыць адсюль спачатку сілком, потым махнулі рукой. Шкада толькі, што зладзеі распаразаліся.

У Музычэнкаў паўтара года назад ад быка і каровы, якія пасвіліся на лузе, засталіся толькі вантробы. Была абкрадзена хата Дзярбеева. А былога настаўніка-пенсіянера з суседняй выселенай вёскі Пабужжа А. Набокіна нядаўна наогул забілі за тое, што ён перашкаджаў зладзеям украсці цялушку.

Дарэчы, Аркадзь Паўлавіч быў вельмі цікавым чалавекам. Ён меў дзве вышэйшыя адукацыі і з самага пачатку аварыі на Чарнобыльскай АЭС рассылаў пісьмы ў высокія інстанцыі былога Савецкага Саюза і Беларусі аб тым, што зганяць людзей з забруджаных раёнаў, з родных мясцін нельга. Будзе намнога больш разумна і эфектыўна, калі адпушчаныя для гэтых мэтаў сродкі пусціць на аздараўленне людзей і зямлі.

Вяртаючыся з Веткі, я ўспомніў свае ранейшыя размовы з самасёламі Брагінскага і Нараўлянскага раёнаў. Дзядулі і бабулі, умудроныя жыццёвым вопытам, гаварылі так: напэўна, радыяцыя і сапраўды шкодная, асабліва для дзяцей. І гэтыя маладыя «дрэўцы» трэба перасаджваць у іншыя месцы, дзе яны набяруцца моцы. А навошта нас, пенсіянераў, вырываць, нібы тыя старыя яблыні, якія потым прыжываюцца вельмі хваравіта?

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*АРХІЎ*

# РАХУНАК ВЫСТАВІЦЬ ЧАС

**Архіўныя дакументы сведчаць: пераход Беларусі ў чарнобыльскую эпоху мог мець некалькі варыянтаў. Адзін з магчымых і найбольш, відаць, апраўданых, разглядаўся ў пісьмах да кіраўніцтва рэспублікі былога дырэктара Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР В. Несцярэнкі.**

ВАСІЛЬ БАРЫСАВІЧ — вучоны ў галіне ядзернай энергетыкі, член-карэспандэнт АН БССР з 1972 года. Яго лісты адлюстроўваюць няпростыя працэсы выбару сродкаў і шляхоў выратавання. Першы з іх датаваны 30 красавіка 1986 года. Адрасаваны ён першаму сакратару ЦК КПБ М. Слюнькову. Вучоны гаворыць з пазіцыі прафесіянала, маючага на руках вынікі спектраметрычнага і радыеметрычнага аналізаў проб глебы вёсак Хойніцкага, Нараўлянскага і Брагінскага раёнаў. Вось да якіх высноў і рэкамендацый ён прыйшоў ужо праз тры дні(!) пасля выбуху: «Нашы ацэнкі прагназіруемай дозы апраменьвання ў гэтых раёнах па выніках аналізаў проб глебы паказваюць, што могуць узнікнуць істотныя наступствы для здароўя людзей.

Зыходзячы з ацэначнай дозы апраменьвання насельніцтва, ізатопнага саставу проб глебы, уяўляецца мэтазгодным у максімальна сціслыя тэрміны разгледзець і правесці арганізацыйныя мерапрыемствы, накіраваныя на:

1) ёдную прафілактыку насельніцтва абласцей рэспублікі, якое знаходзіцца пад радыеактыўным уздзеяннем; 2) правядзенне санітарна-гігіенічных мерапрыемстваў па дэзактывацыі скуры людзей, іх адзення, службовых і жылых памяшканняў; 3) абмежаванне дастаўкі і гандлю прадуктамі харчавання ў адкрытым выглядзе; 4) ахову адкрытых крыніц пітной вады; 5) арганізацыю санітарна-асветніцкай работы сярод насельніцтва рэспублікі; 6) санітарна-гігіенічнае мыццё гарадоў рэспублікі».

Напомнім: першае пісьмовае паведамленне аб аварыі на Чарнобыльскай АЭС з'явілася ў газеце «Правда» 30 красавіка. Толькі 14 мая выступіў па тэлебачанні кіраўнік дзяржавы М. Гарбачоў.

У дакуменце (пісьме) прама нічога не сказана аб магчымасцях святкавання 1 Мая. Але ж прапановы аўтара недвухсэнсоўна фармулююць адказ і на гэта пытанне, які гучыць прыблізна так: радыяцыйная нагрузка на насельніцтва патрабуе правядзення санітарна-гігіенічных мерапрыемстваў, а не фармальна-святочных дэманстрацый. Апошнія ўсё-такі адбыліся. Праўда, арганізатары, адбыўшы нумар, рэкамендавалі людзям хутчэй вяртацца дамоў і шчыльна закрыць аконныя форткі.

Па ўсім відаць: інстытут шчыра жыў праблемамі аварыі. У рух былі прыведзены як кадры, так і напрацоўкі. У адпаведнасці з распараджэннем СМ БССР ад 4 мая 1986 г. тут была створана спецыяльная рабочая група ў саставе вучоных — фізікаў, біёлагаў, медыкаў, высокакласных інжынераў. Часовы творчы калектыў 5-6 мая абследаваў радыяцыйную абстаноўку ў Хойніцкім і частцы Брагінскага раёнаў (агульны гама-фон, адбор радыеактыўнага ёду, выбарачны кантроль выпраменьвання, накопленага ў шчытападобнай залозе).

У зоне адсялення людзей узровень гамафону перавышаў норму ў 500 разоў. Мінімальнае знаходжанне радыеактыўнага ёду было заўважана ў тых, хто ўжываў сродкі індывідуальнай аховы органаў дыхання, рабіў ёдную прафілактыку. Максімальнае — у людзей, якія прабылі ў зоне адсялення каля двух сутак.

Камісія на чале са сваім кіраўніком упершыню прапанавала звярнуцца з просьбай аб дапамозе да Масквы. У прыватнасці, запрасіць у Міністэрства аховы здароўя СССР даныя кантрольных узроўняў для насельніцтва і знешняга асяроддзя ў падобных сітуацыях. Ад вырашэння гэтых пытанняў у многім залежала правядзенне неабходных арганізацыйных мерапрыемстваў, выдзяленне Беларусі неабходных фінансавых сродкаў.

Высновы і прапановы камісіі В. Несцярэнка разам са сваёй невялічкай дакладной накіраваў у ЦК. У іх, як і раней, настойліва рэкамендавалася ёдная прафілактыка, кантроль за чысцінёй прадуктаў харчавання.

На лістах стаяць рэзалюцыі М. Слюнькова: «т. Кавалёву М. В. для вырашэння»; «т. Кавалёву М. В. для інфармацыі».

Аўтар бачыў: пошук адэкватных формаў і метадаў барацьбы з атамам ідзе без выкарыстання назапашанага вопыту. Яго звароты ў ЦК, ва ўрад носяць толькі рэалістычны характар.

Вось што, напрыклад, гаворыцца ў лісце вучонага персанальна да Слюнькова 7.05.1986 г.: «У выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС (4-ы блок) адбыўся выкід у атмасферу прадуктаў дзялення ядзернага гаручага і ўтворанага плутонію. Дазволеная доза агульнага апраменьвання складае 75 рэнтген (старая норма), цяпер 50, пры якой неабходна эвакуацыя. Ад знешняга апраменьвання чалавек атрымлівае 20 працэнтаў дозы апраменьвання, а 80 працэнтаў дабаўляецца ад забруджаных прадуктаў харчавання і ўдыхання радыеактыўных аэразоляў. ... Па стану на 6.05.86 г. маем па шэрагу населеных пунктаў 30-кіламетровай зоны (паўднёвая частка Гомельскай вобласці) 100-працэнтнае і больш перавышэнне ўзроўню забруджвання пашы і прадуктаў харчавання. Многія жыхары раёнаў 30-кіламетровай зоны па нашых ацэнках могуць атрымаць больш за 75 рэнтген і патрабуюць спецыяльнага медыцынскага абслугоўвання і эвакуацыі ў больш аддаленыя зоны (100 км).

Лічылі б мэтазгодным: 1. Расшырыць зону адсялення да 50—70 км ад месца аварыі. 2. Сфарміраваць атрад радыебіёлагаў, уключыўшы ў яго супрацоўнікаў Інстытута біяфізікі Міністэрства аховы здароўя СССР, і даручыць ім правесці ацэнку атрыманых дозаў апраменьвання насельніцтвам. 3. Стварыць камісію з прадстаўнікоў вучоных, работнікаў Аэрафлоту, Міністэрства аховы здароўя, Міністэрстваў харчовай прамысловасці, гандлю і бытавых паслуг, даручыўшы ім правядзенне ўсіх мерапрыемстваў па ацэнцы ўзроўняў радыеактыўнага забруджвання прадуктаў харчавання насельніцтва, зялёных кармоў, малака і малочных прадуктаў мясцовай вытворчасці, збожжавых, агародніны і іншых прадуктаў расліннага і жывёльнага паходжання, рэкамендацый па далейшаму выкарыстанню сельгасугоддзяў. 4. Звярнуцца ў Міністэрства аховы здароўя СССР для ўстанаўлення кантрольных узроўняў аварыйнага апраменьвання на аварыйны перыяд».

На пісьме адсутнічае рэзалюцыя адрасата. Мабыць, яно было падрыхтавана па асабістай просьбе сакратара ЦК.

Амаль кожны дзень у работу ўключалася ўсё большая колькасць людзей, устаноў, населеных пунктаў. У першай палове мая выйшлі дзве пастановы па лініі ўрада Беларусі, накіраваныя на ліквідацыю вынікаў чарнобыльскай аварыі. Расшыраўся ўдзел і вучоных.

Першы вялікі аналітычны дакумент акадэмічных вучоных зарэгістраваны ў агульным аддзеле ЦК КПБ 14 мая 1986 года. Спіс падпісаўшых яго ўзначальвае Несцярэнка. Гэта нездарма: яго канцэптуальны падыход да праблемы не супярэчыў ідэям новага дакумента, наадварот, рабіў іх сваім творчым працягам.

Многія з іх прайшлі апрабацыю практыкай.

Але галоўны экзаменатар чарнобыльскіх падзей — наперадзе. Імя яму — Час.

**Вячаслаў СЕЛЯМЕНЕЎ,**
**дырэктар Нацыянальнага архіва РБ;**
**Яўген БАРАНОЎСКІ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік архіва.**

*У СВЕЦЕ*

## ЧАРНОБЫЛЬСКІ ГОЛАС У КАНГРЭСЕ ЗША

23 красавіка ў кангрэсе ЗША (Камісія па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе) адбыліся слуханні ў сувязі з 10-годдзем катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

На слуханнях выступіў пасол Рэспублікі Беларусь у ЗША С. Мартынаў. У яго прамове былі выкладзены асноўныя наступствы чарнобыльскай катастрофы для Рэспублікі Беларусь, іх глыбіня і цяжар. У мэтах пераадолення вынікаў чарнобыльскай катастрофы падкрэслена неабходнасць пашырэння міжнароднага і двухбаковага супрацоўніцтва ў наступных галінах:

— аказанне пацярпеўшым ад вынікаў чарнобыльскай катастрофы адраснай гуманітарнай дапамогі, прадастаўленне высакаякаснага сучаснага медыцынскага абсталявання, якое забяспечвае раннюю дыягностыку і лячэнне захворванняў, а таксама сучасных і эфектыўных лекаў;

— развіццё навуковага супрацоўніцтва як у галіне вывучэння вынікаў катастрофы, так і стварэння тэхналогій па рэабілітацыі забруджаных зямель і вырошчванню экалагічна чыстых прадуктаў у пацярпеўшых раёнах;

— вызначэнне найбольш рацыянальных формаў выкарыстання як міжнародных інтэлектуальных сіл, так і матэрыяльных сродкаў.

Старшыня камісіі кангрэсмен Крыстофер Сміт у заключэнне слуханняў падкрэсліў сваю гатоўнасць спрыяць працы ў кангрэсе над пытаннямі супрацоўніцтва і дапамогі на чарнобыльскім накірунку.

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Толькі вялікі шлюбны торт уцалеў пасля пажару ў гатэлі «Брэмлі» ў паўднёваанглійскім гарадку Гілфард.

У час шлюбнай цырымоніі, якая тут адбывалася, нечакана загарэлася адно з памяшканняў гатэля, і агонь стаў распаўсюджвацца па паверхах. Усе госці адразу былі эвакуіраваны і ніхто з іх не пацярпеў, але гасцініца згарэла разам з мэбляй, абсталяваннем і асабістымі рэчамі гасцей. І толькі нехта з прысутных у разгар панікі праявіў англійскую вытрыманасць і вынес торт.

**ЭКСТРА-ПРЭС.**



**Лявонцій ХАРУЖЫК:**

## «ПРАВЕРКА ДЗЕЙНАСЦІ КІРАЎНІЦТВА СПРАВАМІ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ ДАЗВОЛІЦЬ ДАЦЬ АБ`ЕКТЫЎНУЮ АЦЭНКУ ПРАЦЫ І ЗНІМЕ НЕЗДАРОВЫЯ БУДЗІРУЕМЫЯ ТЛУМАЧЭННІ, ЧУТКІ І ДОМЫСЛЫ»

— Упэўнены, што вытрымаем і праверку прэзідэнцкай сумеснай камісіі, у састаў якой увайшлі прадстаўнікі Вярхоўнага Савета і Кантрольнай палаты, кіраўнікі шэрага міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і іншых цэнтральных органаў кіравання. Агульная колькасць прыцягнутых да праверкі рэвізораў на сённяшні дзень склала больш за 170 чалавек.

**— Чытачам будзе цікава даведацца, якія службы ўваходзяць у структуру Кіраўніцтва справамі.**

— Шэраг падраздзяленняў перайшоў да нас «у спадчыну» ад Савета Міністраў. Гэта ўпраўленне адміністрацыйных будынкаў, рэспубліканскі культурна-асветны цэнтр, запаведнікі, Дом друку, аўтапрадпрыемства, сельскагаспадарчае прадпрыемства «Усход», дырэкцыя пансіянатаў і гасцініц, былая лечкамісія.

Трэба адзначыць, што гаспадарка Кіраўніцтва папоўнілася ў апошнія два гады некалькімі санаторыямі, якія знаходзяцца за межамі рэспублікі. Расцэньваю гэты факт як пэўны поспех у працы. Кіраўніцтву справамі ўдалося юрыдычна аформіць санаторыі ў поўную ўласнасць рэспублікі, што не вырашалася працяглы час іншымі структурамі. Вынік гэтай працы аказаўся вельмі абнадзейлівым. Так, калі ў 1994 годзе санаторнае лячэнне ў гэтых установах змаглі атрымаць каля 13 тысяч чалавек, то ў мінулым годзе — ужо каля 20 тысяч чалавек.

Асобнае месца ў рабоце Кіраўніцтва займаюць запаведнікі і нацыянальныя паркі, асноўнай задачай якіх з'яўляецца захаванне прыродных комплексаў і біялагічнай разнастайнасці запаведных тэрыторый. Мы разумеем, што ў цяперашні эканамічна няпросты час дзяржава не можа ў поўным аб'ёме ўзяць на сябе абавязкі па ўтрыманню такіх структур. Таму ў межах, якія дапускае Закон аб ахоўваемых тэрыторыях, з выкананнем навукова абгрунтаваных рэкамендацый у галіне экалогіі развіваем турысцкую і асветніцкую дзейнасць, а таксама адпаведныя падсобныя вытворчасці.

Што датычыцца новых падраздзяленняў, то хацелася б асобна спыніцца на канцэрне «Белмастпромыслы». 16 яго фабрык на момант прыняцця яго ў падпарадкаванне Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Беларусі, вобразна кажучы, гібелі. Большасць фабрык прастойвала. Па паўгода людзі не атрымлівалі заработную плату. Не хапала сыравіны. Хранічныя неплацяжы разбуралі вытворчасць. А гаворка, без усякіх перабольшанняў, ішла аб нацыянальным набытку народа. Кіраўніцтва і калектыў канцэрна звярнуліся да Прэзідэнта з просьбай аб перадпарадкаванні гэтай структуры Кіраўніцтву справамі.

Мы добра ўяўлялі і разумелі, што ўзвальваем на сябе вельмі цяжкую ношу, але ў мэтах адраджэння, захавання і далейшага развіцця народных мастацкіх промыслаў, падтрымання паміраючай народнай творчасці, мы пайшлі на гэты крок. Вядома, адразу ўсе фабрыкі адначасова не сталі квітнеючымі прадпрыемствамі, але галоўнае ўсё ж было дасягнута, гэтыя вытворчасці зараз працуюць стабільна.

З моманту стварэння Кіраўніцтва справамі ўсе юрыдычныя асобы, што ўваходзяць у яго састаў, сталі пераводзіцца на работу ў рэжыме самазабеспячэння і самаакупнасці.

Так, у аўтапрадпрыемстве, створаным на базе двух гаспадарак (аўтабазы Савета Міністраў і Вярхоўнага Савета), удалося ў мінулым годзе скараціць колькасць легкавога службовага транспарту ў параўнанні з мінулым годам на 188 адзінак. Толькі за кошт рацыянальнай і правільнай эксплуатацыі аўтатранспарту зэканомлена 9,5 млрд. рублёў.

У цэлым жа даходы ад пазабюджэтнай дзейнасці падведамасных Кіраўніцтву справамі прадпрыемстваў і арганізацый, якія раней фінансаваліся цалкам з рэспубліканскага бюджэту, у 1995 годзе склалі 95 млрд. рублёў, больш за трэць з якіх у выглядзе падаткаў накіраваны ў бюджэт рэспублікі.

**— Што ж дрэннага, на вашу думку, угледзелі некаторыя дэпутаты Вярхоўнага Савета ў тым, што дзяржаўны бюджэт атрымаў дадатковую крыніцу папаўнення?**

— Прычына гэтага бачыцца ў наступным. У апошні час сярод некаторых журналістаў, а таксама часткі дэпутатаў Вярхоўнага Савета распаўсюдзілася нямала версій, можна сказаць небыліц, наконт прыняцця ў Кіраўніцтва справамі шэрага адміністрацыйных будынкаў і збудаванняў, іншых аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці, якія падлягаюць перадачы ў яго аператыўнае кіраванне ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта «Аб упарадкаванні выкарыстання будынкаў, збудаванняў і іншых памяшканняў». У цэлым перадаецца 80 аб'ектаў. Перадачай гэтых аб'ектаў у нейкай меры кіраўніку дзяржавы ўдалося прыпыніць «уцечку» дзяржаўных фінансавых сродкаў, чым, магчыма, былі закрануты інтарэсы асобных «гаспадароў», якія, страціўшы такую крыніцу даходаў, паспяшаліся выступіць у ролі пакрыўджаных і паспрабавалі знайсці абарону ў асобе прадстаўнікоў заканадаўчай улады.

Сам жа ўказ кіраўніка дзяржавы не выспеў у адно імгненне. У сувязі з абвяшчэннем рэспублікі незалежнай дзяржавай у Мінску востра паўстала праблема размяшчэння нанава ствараемых органаў дзяржаўнага кіравання, міжнародных арганізацый, пасольстваў і дыпламатычных прадстаўніцтваў іншаземных дзяржаў. Асновай прэзідэнцкага дакумента з'явіліся таксама вынікі працы Рэспубліканскай камісіі па ўпарадкаванню выкарыстання адміністрацыйных будынкаў, збудаванняў, вытворчых плошчаў і іншых аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці, якой падрыхтавана нямала інфармацыі, што паслужыла падставай для прыняцця адпаведных рашэнняў. Устаноўленыя факты нямэтавага выкарыстання будынкаў рэспубліканскай уласнасці былі далёка не радаснымі.

Узяць, напрыклад, вышынны сучасны будынак былога інстытута «Белпрампраект» на плошчы Свабоды. Два гады таму яно было прыватызавана за 2,5 млрд. рублёў!? За трэць плошчаў, якія здаюцца ў цяперашні час у арэнду ў гэтым будынку, новыя ўладальнікі за адзін год атрымліваюць у паўтара раза большую суму, чым атрымала дзяржава ад так званай прыватызацыі.

Ёсць у інфармацыі гэтай рэспубліканскай камісіі і негатыўныя факты, якія дапусціла кіраўніцтва Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Так, яшчэ ў 1991 годзе сакратарыят парламента здаў у арэнду камерцыйнай структуры памяшканне былога швейнага атэлье ЦК КПБ па вуліцы Пуліхава, 31, корп. 1 у г. Мінску па цане 293 рублі за адзін квадратны метр у месяц. Толькі нядаўна арэндная плата была паднята да 9 тыс. рублёў за квадратны метр у месяц, хоць рэальна гэта цана павінна быць значна вышэйшая.

Усяго ў ходзе работы камісіі было абследавана каля 52 тысяч будынкаў агульнай плошчай больш за 85,9 млн. кв. метраў, якія належаць 7738 дзяржаўным арганізацыям і ўстановам. Устаноўлена, што ў большасці з правераных адміністрацыйных будынкаў значныя плошчы выкарыстоўваюцца неэфектыўна і не па прызначэнню. Тэхнічны стан многіх аб'ектаў нездавальняючы. Бягучыя і капітальныя рамонты будынкаў доўгі час не праводзіліся. Грашовыя сродкі, якія атрымліваюць суб'екты гаспадарання ад здачы памяшканняў у арэнду, не накіроўваліся ва ўстаноўленым парадку на ўтрыманне будынкаў, а выкарыстоўваліся часцей за ўсё ў выглядзе надбавак і прэмій да заработнай платы.

**— Чаму ж камісія па праверцы дзейнасці Кіраўніцтва справамі кіраўніка дзяржавы была ініцыіравана самім Прэзідэнтам?**

— Прэзідэнт рэспублікі прыняў рашэнне аб стварэнні камісіі пасля таго, як гэта не змаглі зрабіць парламентарыі рэспублікі. Бо прапанова аб стварэнні часовай камісіі Вярхоўнага Савета належала непасрэдна народным абраннікам, аднак па дзеючаму ў Беларусі заканадаўству яны трапілі ў няпростую сітуацыю. Адны дэпутаты, спасылаючыся на артыкулы Канстытуцыі, сцвярджалі, што Вярхоўны Савет у выпадку неабходнасці можа ствараць следчыя, рэвізійныя і іншыя часовыя камісіі. Другія парламентарыі лічылі, што, ствараючы такую камісію, заканадаўчая ўлада тым самым ідзе ўразрэз з дзеючым у рэспубліцы заканадаўствам і ўмешваецца ў сферу дзейнасці выканаўчай улады, паколькі Кіраўніцтва справамі кіраўніка дзяржавы было створана ўказам Прэзідэнта. Выйсце са становішча, якое склалася, дапамог дэпутатам знайсці сам Прэзідэнт, выдаўшы ўказ аб стварэнні камісіі, якая па даручэнню кіраўніка дзяржавы і павінна адказаць на пытанні аб дзейнасці Кіраўніцтва справамі, якія бударажаць парламентарыяў.

Заканчэнне.
Пачатак у нумары за 26 красавіка.

**ІМЕМ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

# ЗАКЛЮЧЭННЕ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ АДПАВЕДНАСЦІ КАНСТЫТУЦЫІ ЧАСТКІ ДРУГОЙ АРТЫКУЛА 2, ПУНКТА 3 ЧАСТКІ ДРУГОЙ АРТЫКУЛА 214 КОДЭКСА ЗАКОНАЎ АБ ПРАЦЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ПУНКТА 1 ПАСТАНОВЫ ПЛЕНУМА ВЯРХОЎНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 17 ЧЭРВЕНЯ 1994 Г. № 5 «АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАННЯХ ПРЫМЯНЕННЯ СУДАМІ ЗАКАНАДАЎСТВА ПРЫ ВЫРАШЭННІ ПРАЦОЎНЫХ СПРЭЧАК»

Канстытуцыйны суд Рэспублікі Беларусь у саставе старшынствуючага — старшыні Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Ціхіні В. Г., намесніка старшыні Канстытуцыйнага суда Фадзеева В. А., суддзяў Васілевіча Г. А., Кенік К. І., Пастухова М. І., Падгрушы В. В., Серады Н. М., Цішкевіча С. І., Філіпчык Р. І.

з удзелам

прадстаўнікоў:

Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь, які ўнёс прапанову аб праверцы канстытуцыйнасці нарматыўных актаў —

Сашчэкі І. Ф., намесніка Генеральнага пракурора;

Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь —

Крывога В. І., загадчыка аддзела па абслугоўванню Камісіі Вярхоўнага Савета па сацыяльнай палітыцы і працы;

Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь —

Міранічэнкі І. А., намесніка старшыні Вярхоўнага суда;

эксперта Астроўскага Л. Я. — дацэнта кафедры правазнаўства Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, кандыдата юрыдычных навук;

спецыяліста Смаглюк С. І. — намесніка загадчыка юрыдычным аддзелам Савета Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі

разгледзеў у адкрытым пасяджэнні справу «Аб адпаведнасці Канстытуцыі часткі другой артыкула 2, пункта 3 часткі другой артыкула 214 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь, пункта 1 пастановы Пленума Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5 «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак».

У судовым пасяджэнні прыняў удзел Андрэеў І. С. — першы намеснік міністра юстыцыі Рэспублікі Беларусь.

Вытворчасць па справе ўзбуджана Канстытуцыйным судом па прапанове Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Капітана В. С., а таксама па меркаванню суда на падставе артыкула 127 Канстытуцыі, артыкулаў 5 і 6 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», артыкула 44 Рэгламента Канстытуцыйнага суда.

Праверцы падлягалі частка другая артыкула 2, пункт 3 часткі другой артыкула 214 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь і пункт 1 пастановы Пленума Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 года № 5 «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» («Судовы веснік», 1994, № 3).

Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь у сваёй прапанове паставіў пытанне аб праверцы ўказаных нормаў, якія дапускаюць замацаванне ва ўстаноўчых дакументах і лакальных актах кааператываў, прадпрыемстваў, таварыстваў, заснаваных на калектыўнай форме ўласнасці, палажэнняў, якія выключаюць права галоўных спецыялістаў гэтых суб'ектаў гаспадарання абскардзіць іх вызваленне ад працы ў суд, што, на яго думку, супярэчыць артыкулам 22 і 61 Канстытуцыі, а таксама артыкулам 4 і 6 Грамадзянскага працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Частка другая артыкула 2 КЗаП Рэспублікі Беларусь прадугледжвае, што працоўныя і звязаныя з імі адносіны, заснаваныя на членстве ў кааператывах, прадпрыемствах і таварыствах калектыўных формаў уласнасці, рэгулююцца заканадаўствам аб працы. Іншае (за выключэннем нормаў, якія пагаршаюць становішча членаў кааператываў, прадпрыемстваў і таварыстваў у параўнанні з заканадаўствам аб ахове працы, аб гарантыях жанчынам, інвалідам і непаўналетнім, а таксама аб плацяжах і ўзносах па сацыяльнаму страхаванню, пенсіённаму забеспячэнню і садзейнічанню занятасці) можа ўстанаўлівацца ва ўстаноўчых дакументах і лакальных актах гэтых кааператываў, прадпрыемстваў і таварыстваў.

У адпаведнасці з пунктам 3 часткі другой артыкула 214 КЗаП Рэспублікі Беларусь непасрэдна ў судзе разглядаюцца працоўныя спрэчкі па заявах супрацоўнікаў аб аднаўленні на працы незалежна ад падстаў скасавання працоўнага дагавора, аб змяненні даты і фармулёўкі прычыны звальнення, аб аплаце за час вымушанага прагулу ці выканання ніжэйаплатнай работы, за выключэннем спрэчак супрацоўнікаў, для якіх прадугледжаны іншы парадак іх разгляду.

Пунктам 1 пастановы Пленума Вярхоўнага суда ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5 «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» устаноўлена, што ў адпаведнасці з часткай другой артыкула 2 КЗаП Рэспублікі Беларусь заканадаўства аб працы распаўсюджваецца на працоўныя і звязаныя з імі адносіны, заснаваныя на членстве ў кааператывах, прадпрыемствах і таварыствах калектыўных формаў уласнасці толькі ў тым выпадку, калі ва ўстаноўчых дакументах і лакальных актах гэтых кааператываў, прадпрыемстваў і таварыстваў не ўстаноўлена іншае. Нормы ўстаноўчых дакументаў і лакальных актаў выкарыстоўваюцца і ў тым выпадку, калі яны нават пагаршаюць становішча членаў кааператываў, прадпрыемстваў і таварыстваў калектыўных формаў уласнасці ў параўнанні з заканадаўствам аб працы за выключэннем нормаў, якія рэгулююць пытанні аховы працы, гарантый жанчынам, інвалідам і непаўналетнім, а таксама аб плацяжах і ўзносах па сацыяльнаму страхаванню, пенсіённаму забеспячэнню і садзейнічанню занятасці.

Выслухаўшы прадстаўнікоў бакоў, эксперта, спецыяліста, вывучыўшы матэрыялы справы, прааналізаваўшы палажэнні Канстытуцыі, законаў, міжнародна-прававых і іншых нарматыўных актаў, Канстытуцыйны суд прыйшоў да высновы, што асобныя палажэнні часткі другой артыкула 2, пункта 3 часткі другой артыкула 214 КЗаП Рэспублікі Беларусь, пункта 1 пастановы Пленума Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5 «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» не адпавядаюць Канстытуцыі, зыходзячы з наступнага.

У адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 41 Канстытуцыі грамадзяне маюць права на абарону сваіх эканамічных і сацыяльных інтарэсаў.

Адпаведна артыкулу 61 Канстытуцыі кожнаму гарантуецца абарона яго правоў і свабод кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом у вызначаныя законам тэрміны.

Артыкулам 22 Канстытуцыі прадугледжана, што ўсе роўныя перад законам і маюць права без усялякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў.

Канвенцыяй Міжнароднай арганізацыі працы № 111 «Аб дыскрымінацыі ў галіне працы і заняткаў» і Рэкамендацыямі Міжнароднай арганізацыі працы № 111 «Аб дыскрымінацыі ў галіне працы і заняткаў» прадугледжана, што ўсе асобы павінны карыстацца без дыскрымінацыі роўнасцю магчымасцей ці звароту ў галіне працы і заняткаў.

У адпаведнасці з часткай чацвёртай артыкула 11 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь» пры праверцы акта суд мае на ўвазе як літаральны яго сэнс, так і сэнс, які надаецца яму практыкай прымянення.

Прааналізаваўшы палажэнні часткі другой артыкула 2, пункта 3 часткі другой артыкула 214 КЗаП, адпаведныя тлумачэнні па прымяненню заканадаўства аб працы, якія ўтрымліваюцца ў пункце 1 пастановы Пленума Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5, і даныя аб прымяненні гэтых нормаў у судовай практыцы, Канстытуцыйны суд прыйшоў да высновы, што палажэнні часткі другой артыкула 2 КЗаП, якія замацоўваюць выключэнні з агульнага правіла і дапускаюць магчымасць ва ўстаноўчых дакументах і лакальных актах устанаўліваць вырашэнне спрэчак, звязаных са звальненнем (вызваленнем ад працы) без права звароту ў суд, носяць дыскрымінацыйны характар.

Пунктам 3 часткі другой артыкула 214 КЗаП устаноўлена, што непасрэдна ў судзе разглядаюцца працоўныя спрэчкі аб аднаўленні на працы, за выключэннем спрэчак работнікаў, для якіх прадугледжаны іншы парадак іх разгляду. У той жа час частка першая артыкула 214 КЗаП не прадугледжвае магчымасці звароту ў суд па пытанню аб аднаўленні на працы членаў кааператываў, прадпрыемстваў, таварыстваў калектыўных формаў уласнасці пасля захавання папярэдняга парадку разгляду гэтых пытанняў. У адпаведнасці з Канстытуцыяй названыя асобы не могуць быць пазбаўлены права на зварот у суд з іскам аб аднаўленні іх на працы.

Па гэтых жа падставах суд лічыць не адпаведным Канстытуцыі пункт 1 пастановы Пленума Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5, таму што ён па сутнасці пераказвае палажэнні часткі другой артыкула 2 КЗаП.

Суд таксама адзначае, што прадугледжаны часткай другой артыкула 2 КЗаП пералік гарантый не выключае магчымасці ўстанаўлення ва ўстаноўчых дакументах і лакальных актах кааператываў, прадпрыемстваў і таварыстваў калектыўных формаў уласнасці нормаў, якія абмяжоўваюць не толькі права на судовую абарону, але і некаторыя іншыя канстытуцыйныя правы грамадзян.

На падставе выкладзенага і кіруючыся артыкуламі 127, 128, 129 Канстытуцыі, артыкуламі 5, 6, 36, 38, 40, 43 Закона «Аб Канстытуцыйным судзе Рэспублікі Беларусь», Канстытуцыйны суд

вырашыў:

1. Прызнаць не адпаведнымі Канстытуцыі палажэнні часткі другой артыкула 2 і пункта 3 часткі другой артыкула 214 КЗаП Рэспублікі Беларусь, якія дапускаюць магчымасць устанаўлення абмежаванняў права на зварот у суд з іскамі аб аднаўленні на працы членаў кааператываў, прадпрыемстваў і таварыстваў калектыўных формаў уласнасці, а таксама адпаведныя ім палажэнні пункта 1 пастановы Пленума Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5 «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак».

Лічыць іх страціўшымі сілу з дня апублікавання гэтага Заключэння.

2. Прапанаваць Вярхоўнаму Савету і Вярхоўнаму суду Рэспублікі Беларусь прывесці адпаведна нормы часткі другой артыкула 2 і артыкула 214 КЗаП Рэспублікі Беларусь і пункт 1 пастановы Пленума Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь ад 17 чэрвеня 1994 г. № 5 «Аб некаторых пытаннях прымянення судамі заканадаўства пры вырашэнні працоўных спрэчак» у адпаведнасць з гэтым Заключэннем, маючы на ўвазе неабходнасць забеспячэння канстытуцыйных правоў грамадзян.

3. Апублікаваць гэтае Заключэнне ў дзесяцідзённы тэрмін у «Народнай газеце», «Звяздзе», а таксама ў «Ведамасцях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і тых выданнях, дзе былі апублікаваны правяраемыя акты.

4. Гэтае Заключэнне ўступае ў сілу з дня прыняцця, з'яўляецца канчатковым, абскарджанню і апратэставанню не падлягае.

**Старшынствуючы — старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь В. Г. ЦІХІНЯ**

19 красавіка 1996 г., г. Мінск
№ 3-33/96

# АБ СТАНЕ СПРАЎ У АГРАПРАМЫСЛОВЫМ КОМПЛЕКСЕ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.)**
можна толькі пасля таго, калі ў нас будзе поўная статыстыка па ўсёй рэспубліцы, як у аграрным сектары, так і ў «Аграпрамбанку», перад якім утварыўся доўг па працэнтах.

Прапановы пралангіраваць да 2005 года запазычанасць па пазыках банка, якія змяшчаюцца ў праекце пастановы Вярхоўнага Савета, проста непрымальныя. Я хацеў бы, каб усе сабе дакладна і ясна ўяўлялі: калі мы камусьці даём грошы, значыць мы іх у кагосьці адначасова забіраем. Папярэдні Вярхоўны Савет вельмі часта, на жаль, прымаў рашэнні наконт падваення заработнай платы. Калі прымаліся рашэнні камусьці даравацЬ даўгі, калі прымаліся рашэнні аб аднясенні доўгу на ўнутраны дзяржаўны доўг, то гэта прыводзіла да таго, што хтосьці, нейкая юрыдычная асоба, якая мае грошы ў сябе ў наяўнасці або на сваіх рахунках, большую суму гэтых грошай губляла. Губляла ў сувязі з інфляцыяй, праз павышэнне курса на біржы, таму што такія аперацыі, калі ў эканоміку ўліваюцца грошы, якіх няма ў прыродзе, адразу ж даюць аб сабе знаць. Даюць аб сабе знаць на біржы, даюць аб сабе знаць па ўзроўню і па тэмпах інфляцыі.

І калі быць аб'ектыўным, то па мінуламу году рэнтабельнасць прамысловасці была ніжэйшая, чым рэнтабельнасць у сельскай гаспадарцы. Такім чынам, паўстае пытанне: калі даравацьь даўгі або аднесці іх да 2005 года сельскай гаспадарцы, то чаму б тое ж самае не зрабіць з прамысловасцю? Давайце паспрабуем сёння даравацьь даўгі калгасам, прамысловасці, а што будзе заўтра? Што адбудзецца ў эканоміцы? Ды вельмі простая рэч: зноў пацерпяць тыя, хто працуе, і заахвоцім тых, хто працаваць не хоча і не ўмее. Гэту школу мы ўжо прайшлі. Прайшлі, пачынаючы з 1990 года, калі ўсім давалі, усіх падтрымлівалі, усім прадастаўлялі льготы і глядзіце, да якога жабрацкага стану дайшлі.

Па плацяжах у бюджэт. Калі мы прадаставім адтэрміноўку па энерганосьбітах, то паглядзім наш баланс у цэлым па рэспубліцы, колькі ў бюджэт павінен народнагаспадарчы комплекс. Відавочна, пасля гэтага нейкую адтэрміноўку па плацяжах у бюджэт зможам прадаставіць.

Але, даруйце мне, тое, што датычыць плацяжоў у Фонд сацыяльнага забеспячэння, то тут адтэрміноўкі быць не можа. Вядома, з якой затрымкай ідзе выплата пенсій у цэлым па рэспубліцы. Мы не ведаем, як канцы з канцамі звесці, а прапануецца яшчэ адтэрмінаваць плацяжы па сацыяльнаму страхаванню. Лічу, што гэта пазіцыя таксама непрымальная.

Па таварнаму крэдыту. Калі яго спісаць, то атрымаецца, што тыя гаспадаркі, якія вярнулі доўг, зноў панясуць страты. Таму ні аб якім агульным спісанні, напэўна, размова не павінна ісці. Нам перш за ўсё трэба працаваць на павышэнне закупачнай цаны. Калі таваравытворца вырабіў прадукцыю, ён павінен атрымаць за яе дастойныя грошы, а ўсякія дараванні, спісанні і да таго падобныя дзеянні прыводзяць толькі да разбурэння эканомікі.

Хацеў бы, каб усе зразумелі: сёння мы падышлі да такой сітуацыі, такі шлях развіцця выбралі, калі ніхто не можа поўнасцю гарантаваць усю закупку прадукцыі, якая выпускаецца ў сельскай гаспадарцы. Ёсць толькі асноўныя параметры па закупках для дзяржаўных патрэб, якія вызначаны ўрадам. Па гэтых пазіцыях мы закупку зробім. А ўсё астатняе трэба рэалізоўваць самім. Вы памятаеце, колькі было нараканняў, калі ўрад адмаўляўся ад устанаўлення цэнтралізаванай закупачнай цаны на бульбу, ад прывязкі пастаўшчыкоў да спажыўцоў. Цяпер да гэтага ўсе прывыклі, і нічога страшнага не адбылося. Гаспадаркі, якія маюць бульбу, змаглі рэалізоўваць яе па даволі нядрэннай цане.

І ў заключэнне я хацеў бы некалькі слоў сказаць аб узаемаадносінах Вярхоўнага Савета і Кабінета Міністраў. Мне хацелася б, каб яны былі крыху іншымі. Што я перш за ўсё маю на ўвазе? Нельга пастаянна парыраваць прапановы ўрада. Скажам, мы прапаноўвалі ўстанавіць плату не за жылую, а за агульную плошчу. Вы ж ведаеце, што адбываецца. Ёсць кватэры, у якіх агульная плошча ад жылой адрозніваецца на 10 працэнтаў, а ёсць, дзе на 50 працэнтаў. Не пагадзіўся Вярхоўны Савет з нашай прапановай. А тарыф усё роўна мы вымушаны будзем у бягучым годзе ўзнімаць. На каго ўпадзе ад гэтага большы цяжар? На тыя сем'і, якія жывуць у «хрушчоўках».

Або ўзяць надзвычайны падатак. Я прыходзіў да вас, прасіў дэпутатаў не павялічваць надзвычайны падатак. Ён і так быў вельмі высокі. З намі не пагадзіліся. І што ў выніку? На сённяшні дзень 500 мільярдаў рублёў плацяжоў у чарнобыльскі фонд ляжыць у картатэцы, плаціць ніхто не можа. Неабходна, каб заўсёды браў верх здаровы сэнс.

Хацелася б таксама сказаць аб выхадных і святочных днях. У часы Савецкага Саюза было восем святочных дзён, а ў нас іх сёння 15. Але ж у эканоміцы рэспублікі зараз самы жорсткі крызіс, а мы паўмесяца ў год губляем на святы.

І апошні момант. Вы прынялі рашэнне аб вяртанні да многіх ільгот, якія былі адменены ўказамі Прэзідэнта. Гэтыя льготы складаюць сёння па рэспубліцы адзін трыльён 200 мільярдаў рублёў. Дзе іх узяць? У бюджэце ж вы гэтых сродкаў не прадугледзелі.

Вядома, Вярхоўны Савет перажывае цяпер першапачатковы этап сваёй дзейнасці. Гэты перыяд, як правіла, найбольш складаны ва ўзаемаадносінах з дзяржаўнымі структурамі. Можа, мы штосьці ўпускаем, недастаткова сустракаемся. Можа, не заўсёды пераканаўча гаворым пра тыя рэчы, за якія вы галасуеце. Але я спадзяюся, што перыяд станаўлення ідзе к канцу, і ў нас павінна ўстанавіцца ўзаемаразуменне. Будзем працаваць разам зладжана — будуць і нармальныя вынікі. Мэта ж у нас адна — палепшыць сітуацыю, палепшыць умовы жыцця насельніцтва нашай рэспублікі.

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

24 красавіка пад старшынствам Сямёна Шарэцкага адбылося пасяджэнне Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Заслухана і прынята да ведама інфармацыя старшыні Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь В. Саковіча «Аб ходзе праверкі гаспадарчай і фінансава-эканамічнай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Кантрольнай палаце даручана прадоўжыць праверку і праінфармаваць Вярхоўны Савет аб яе выніках.

У сувязі з 51-й гадавінай Перамогі савецкага народа ў Вялікай Айчыннай вайне намечана правесці 7 мая 1996 года ў Вярхоўным Савеце сустрэчу з Героямі Савецкага Саюза і поўнымі кавалерамі ордэна Славы.

Прынята рашэнне ўзнагародзіць Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета вялікую групу ўдзельнікаў ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС «за мужнасць і вялікі асабісты ўклад у пераадоленне згубных вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі».

Для ўдзелу ў рабоце Міжпарламенцкай асамблеі дзяржаў — удзельніц СНД і міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі «Гісторыя парламентарызму ў дзяржавах — удзельніцах СНД» (да 90-годдзя Дзяржаўнай думы Расіі) у Санкт-Пецярбург 28 красавіка накіруецца дэлегацыя беларускіх парламентарыяў на чале са Старшынёй Вярхоўнага Савета С. Шарэцкім.

Разгледжаны таксама і іншыя пытанні.

**Прэс-служба Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — БЕЛТА.**

## У КАБІНЕЦЕ МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Кабінет Міністраў адобрыў і накіраваў Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь для прадстаўлення на ратыфікацыю ў Вярхоўны Савет Дагавор аб стварэнні Супольніцтва Беларусі і Расіі, падпісаны ў г.Маскве 2 красавіка 1996 г.

**Прэс-служба Кабінета Міністраў — БЕЛТА.**

